PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 41 (1952) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 10 КАСТРЫЧНІКА 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

## ЧОРТ СВАЁ, СВЯТАР СВАЁ

„Праваслаўныя павінны быць аб'яднаныя, павінны быць разам, нягледзячы на тое, хто якія мае погляды" — штораз паўтаралі „братчыкі" на сходах выбарчага камітэта. Мэта цудоўная, але немагчымая да ажыццяўлення. Пэўна не па дарозе будзе Беларускаму дэмакратычнаму аб'яднанню з Саюзам украінцаў Падляшша? Першыя выступаюць за развіццё беларускай нацыянальнай тоеснасці, за беларускае школьніцтва на Беласточчыне, другія — наадварот, за яе ліквідацыю, за тое, каб у школах беларускую мову заступіць украінскай. Ці такія супярэчнасці маглі існаваць у супольным камітэце? Але і без Саюза ўкраінцаў Підляшша гэты выбарчы конь прагаслаўных не надта паскорыў хуткасць. Як у казцы Крылова — кожны цягнуў у свой бок, прынамсі напачатку, а потым — наадварот, ніхто не цягнуў. Ці пры такіх унутраных супярэчнасцях праваслаўныя маглі дабіцца вялікага поспеху? Маглі. Унутраныя перашкоды аказаліся неістотнымі ў параўнанні з вонкавымі. Менавіта вонкавыя абставіны вырашылі аб такім, а не іншым выніку выбараў. Хай сабе БГКТ арганізуе не 15, а 50 фэстынаў, хай сабе С. Лукашук з „Маланкай" аб'едзе не 10, а 100 вёсак, хай сабе А. Міраневіч параздае прыцаркоўнікам 100 тысяч лістовак, хай сабе... і г.д. А насельніцтва, быццам насуперак усяму гэтаму і так прагаласуе па-свойму, на каго захоча. Хаця прыхільнасць да Цімашэвіча не мае ніякага рацыянальнага апраўдання, усётакі ён будзе тут збіраць большасць галасоў.

Прыслухоўваюся да гутаркі трох пажылых дзядзькоў пасля набажэнства ў беластоцкім Святамікалаеўскім саборы. „Камуна, — гаворыць першы, — дала мне ўсё! Мой бацька пасвіў кароў перад вайной, а я працаваў начальнікам у горадзе, вучыўся, атрымаў кватэру, працу, выгадаваў сыноў. А цяпер што? Дачка на „куранёўцы", сын распіўся, калі стаў бізнесменам, а мне тая „Салідарнасць", ... іх маць, хоча адабраць пенсію, бо нібыта УБ было злачыннай арганізацыяй. А іх хто вывучыў, як не камуна? Галасую на „лявіцу". „Але бачыш, Мікалай, — уключыўся другі, — бацюшка ў царкве прасіў галасаваць на Чыквіна і Міраневіча. Яны выступаюць за нашу культуру, традыцыю, ну, яны нашыя — беларусы, праваслаўныя". „А што там такія беларусы могуць! „Лявіца", о, яна можа. Не параўнаеш хіба Чыквіна да Квасьнеўскага! Той як скажа, дык скажа. Вооо!"

Хто каго пераканаў, не ведаю. Наблізаўся бацюшка, які збіраў ахвяра-

☞ Працяг на стар. 4

## ВЫБАРЧЫЯ ВЫНІКІ

19 верасня 1993 г. Выбарчы камітэт Беларускага саюза ў РП набраў 10 164 галасы. Паасобныя кандыдаты атрымалі наступныя колькасці галасоў: Антон Міраневіч — 5679, Сяргей Шчыгал — 1289, Мікалай Бушко — 1096, Сяргей Лукашук — 847, Мікалай Ваўранюк — 470, Ян Сычэўскі — 338, Пятро Крук — 215, Пятро Багроўскі — 86, Мікалай Валіцкі — 83, Пятро Прышчэпка — 61.



*Мёртвае і жывое.* **Фота А. Вярбіцкага**

## ЗВЯЗ - НОВАЕ ТХНЕННЕ?

5 верасня гэтага года адбыўся ў Бельскім доме культуры Кангрэс Звяза беларускай моладзі (ЗБМ). Звяз заснаваны быў моладдзю, якая мусіць адчувала, што ў змозе нешта зрабіць на грамадскай ніве, але ранейшыя арганізацыйныя рамы ў беларускім асяроддзі ёй не адпавядалі. У пачатку дзейнасці Звяза шмат увагі адводзілася элітарнаму характару гэтай арганізацыі — абы-каго туды не бяруць дый наогул трапіць у рады звязаўцаў не такая ўжо простая справа; кандыдат праходзіў выпрабавальны перыяд, пасля якога кіраўніцтва вырашала, патрэбны Звязу гэты кліент, ці не. Першым старшынёю ЗБМ быў Марко Заброцкі з Бельска - за ягонага кіраўніцтва дайшло амаль да дыпламатычнага скандалу на лініі Варшава-Менск. Адны гаварылі жартам, што вінаваты ўсяму быў Гітлер, а іншыя, што Скарына. Так ці інакш, няшмат бракавала, а Звяз беларускай моладзі пазбаўлены быў бы дзяржаўнай датацыі на сваю дзейнасць.

Кангрэс, які адбыўся 5 верасня ў Бельску-Падляшскім быў надзвычайным, нетэрміновым (кадэнцыя ўлад ЗБМ трывае два гады). На Кангрэсе гэтым выбраны быў новы старшыня арганізацыі, якім стаў **Багдан Сіманенка** з Бельска. Багдан Сіманенка - асоба вядомая ў студэнцкім асяроддзі яшчэ з перыяду арганізацыі структур беларускага студэнцкага руху пры Згуртаванні польскіх студэнтаў, а пазней — на грунце Беларускага аб'яднання студэнтаў. Праўда, апошнімі гадамі Багдан Сіманенка як бы адышоў з грамадскага жыцця ды поўнасцю заняўся прафесійным - цяпер з'яўляецца ён шэфам камп'ютэрнага аддзялення бельскай суполкі "Амега".

*- Ці кожны ў беларускім асяроддзі мусіць быць шэфам чагосьці?*

- Не мусіць, але я мусіў.

*- Якое было ўдзельніцтва дэлегатаў у Надзвычайным кангрэсе?*

- Вельмі высокае.

*- 110%?*

- Не, скажам, 90.

*- Што вырашыла пра надзвычайнасць Кангрэса?*

- Унутрыарганізацыйныя справы ЗБМ. Не надта цікавыя дзядзькам, якія чытаюць "Ніву".

*- З якою думкаю прыняў ты функцыю старшыні Звяза беларускай моладзі?*

- Што ж, калі дайшло да выбару новага старшыні, сярод пару іншых кандыдатаў аказалася і мая асоба, я не адмовіўся. Выбралі. А думка была тады такая, што чакае мяне шмат працы.

*- А дакладней?*

- Трэба ў Звязе, як, дарэчы, і ў цэлай гэтай краіне, навесці крышку парадку.

*- Значыць, у Звязе да гэтай пары былі непарадкі?*

- Не столькі непарадкі, колькі стан нявыкрышталізаванасці самой арганізацыі. Сярод удзельнікаў Звяза, якія заснавалі гэту арганізацыю, каб нешта рабіць (бо і навошта інакай), існуюць тры погляды на ролю і кшталт ЗБМ. Адны хочуць чагосьці выключна элітарнага, рыхтык КПНаўскія стралкі, яшчэ іншым Звяз уяўляецца нібы ЗСМП, у якім ёсць усё і аднача нічога, а ёсць і такія, якія хочуць чагосьці пасярэдзіне, беларускай арганізацыі. Сваю ролю, як старшыні Звяза беларускай моладзі, бачу ў растлумачванні гэтым дзвюм крайнім арыентацыям, што іхняя формула немагчымая.

☞ Працяг на стар. 6

## ЧАКАЕМ НАСТУПНЫХ ВЫБАРАЎ

Вынікі сёлетніх выбараў у Сейм і Сенат Рэчыпаспалітай не цяжка было прадбачыць. Асабліва ў нас на Беласточчыне, дзе б чалавек не пабываў: у Гарадку, Нарве, Кляшчэлях ці Бельску, навокал чуў такія самыя нараканні і гатоўнасць аддаць свой голас на партыю Цімашэвіча ў надзеі вяртання старой палітычнай і эканамічнай сістэмы. Пра ніякія нацыянальныя справы ніхто і не хацеў слухаць. Пры такім мінімальным дыяпазоне этычных вартасцяў і эстэтычных патрабаванняў нацыянальнасць становіцца другараднай справай. Сацыяльная праблема доўга яшчэ будзе дамінаваць у іерархіі важнасці ў жыхароў усходняй Беласточчыны. Нягледзячы на сімпатыі маладой інтэлігенцыі аграмадная большасць з сантыментамі ўспаміне той час, калі існаваў "рэальны сацыялізм". „Быў тады якісь парадак" — часта паўтараюць людзі.

Дэмакратыя скампраметавалася не толькі ў вачах беларусаў, але таксама і палякаў. Нявырашанымі асталіся перш за ўсё праблемы, якія маюць уплыў на штодзённае жыццё кожнага чалавека, а палітыкі ў той час займаліся справамі зусім малаважнымі для большасці грамадства. Словы брытанскага прэм'ера з часоў II сусветнай вайны Уінстана Чэрчыля: „Дэмакратыя — гэта вельмі кепская сістэма, але яшчэ ніхто не прыдумаў лепшай" не маюць тут ніякага суаднясення. Гэтая формула грамадскага парадку, пакуль што, застаецца тут зусім чужой.

На Беласточчыне папярэднія выбары 1991 г. беларусы прайгралі з кампраметуючым вынікам. Тлумачылі нам тады ўсялякія "дабрадзеі", што мы былі раз'яднаныя, пасвараныя і таму, менавіта, людзі аддалі свае галасы на Цімашэвіча. У гэтым годзе ў адным камітэце апынуліся беларусы, праваслаўныя, „рускія", фалькларысты ды нацыяналісты і аказалася, што не мае гэта ніякага ўплыву на выбаршчыкаў. Не мае таксама ніякага ўплыву выбарчая прапаганда. Два гады таму назад эмісары Беларускага выбарчага камітэта былі амаль у кожнай вёсцы, у гэтым годзе прапагандавалі сябе толькі самыя кандыдаты, кожны на свой лад. У адным і другім выпадку вынік быў аднолькавы. Беларус, які меў выбіраць паміж Цімашэвічам і беларусам, найчасцей аддаваў свой голас на паляка, нават калі б меў да выбару больш левага, чым сам Цімашэвіч, не аднаго нашага кандыдата. Колькасць галасоў, аддадзеных на палітыка з Калінўкі-Касцельнай дала магчымасць атрымаць пасольскі мандат Сяргею Плеве (беларусу па паходжанню), які атрымаў 4303 галасы, Станіславу Малішэўскаму — 1294 і Мечыславу Антонему Пецку — 914.

Яны менавіта з Янам Мулякам — былым спартсменам з Варшавы будуць абараняць праваслаўныя і беларускія інтарэсы ў найвышэйшых органах улады Рэчыпаспалітай. Цікава, ці ўсе гэтыя

☞ Працяг на стар. 4

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Sprawa dawnego klasztoru w Supraślu wywołuje nadal kontrowersje. (...) W niedzielę 29 sierpnia katoliccy mieszkańcy Supraśla składali podpisy przeciw oddaniu klasztoru (prawosławnym —Red.). (...)*

*— Powiedzmy jasno o co chodziło w naszym proteście: nie chcemy, aby Supraśl stał się centrum prawosławia, by po Grabarce była tu druga Częstochowa północy. (...)*

*— Zbieraliśmy te podpisy w dobrej wierze, było to rozładowanie napięcia po informacji w prasie, że Rokita oddał klasztor. Ludzie podpisali, wyklęli się i im przeszło. Prawosławni powinni być za to wdzięczni.*

*(Kurier Poranny, nr 185)*

* * *

*„Jak nisko może upaść człowiek, towarzysze — jak nisko. Do jakże niegodziwych czynów może popchnąć go troska o zapewnienie bytu swoim najbliższym, przede wszystkim nieletnim dzieciom... Tak, przyznaję, zbłądziłem. Prawdą jest to, że w 1990 r. zostałem redaktorem „Gońca Parafialnego", ale kłamstwem i oszczerstwem są rozpowszechniane przez nieżyczliwych mi towarzyszy pogłoski, jakobym w piśmie tym, pod pseudonimem „Gorący Patriota", domagał się pozbawienia komunistów praw obywatelskich na lat pięćdziesiąt. Przeciwnie — propagowałem naturalną metodę regulacji urodzin, w celu ograniczenia populacji katolików".*

*(Gazeta Współczesna, nr 186)*

Гэта адзін з узорных лістоў, прыклады якіх *Gazeta Współczesna* падае да ведама тых таварышаў, якія збіліся з праведнага шляху і пасля апошніх выбараў хочуць вярнуцца ў ласку цяперашніх палітычных пераможцаў. Трэба шчыра сказаць, што людзі з *Gazety Współczesnej* яшчэ не забыліся, як такія лісты пішацца. Гэта добрая зарука на будучыню.

* * *

*Ніхто ня думае пра Беларусь. Адзін толькі Ленін...*

*(Пагоня, н-р 28)*

Відаць, праўда.

* * *

*Рэдакцыя газеты „Пагоня" запрашае на працу машыністку, здольную друкаваць беларускія тэксты.*

*(Пагоня, н-р 28)*

Безнадзейная справа. Лепш прапіць той штат.

* * *

*Przewodniczący parlamentu Stanisław Szuszkiewicz występując we wtorek w telewizji skrytykował rząd Wiaczesława Kiebicza i obarczył go odpowiedzialnością za powolne tempo reform gospodarczych na Białorusi.(...)*

*— Białoruś pozostała daleko w tyle, nie tylko za republikami bałtyckimi, ale i Rosją, chociaż pozycja wyjściowa tych państw była identyczna — mówił przewodniczący. — Jedną z przyczyn takiego stanu rzeczy jest niedopuszczalnie zła polityka kadrowa gabinetu Kiebicza — brakuje w nim nowych twarzy.*

*Premier Kiebicz twierdzi, że w rządzie panuje pełna zgodność i wzajemne zrozumienie. Dlaczego więc przy takiej zgodzie długi zagraniczne, których nie było wcale, wynoszą teraz około miliona dolarów? — pytał zdenerwowany Szuszkiewicz.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 223)*

І гэта пры тым, што большасць даўгоў Беларусь мусіць выплачваць Расеі, з якою не мае мяжы!! Сапраўды, можна знервавацца.

* * *

*Głosy oddane na lewicę były tylko częściowo wyrazem tęsknoty za czasami, które minęły bezpowrotnie. W innej części (podejrzewam, że była to część znacząca) były one protestem przeciwko arogancji i ignorancji nowych elit władzy, przeciwko pustemu gadulstwu zastępującemu działanie, przeciwko marnowaniu czasu i bezsensownemu przedłużaniu nowych wyrzeczeń. Lawina głosów, jaka spadła na lewicę, nie została przez nią wywołana. Spowodowali ją politycy ugrupowań dotychczas rządzących, którzy długo pętali się beztrosko po coraz bardziej niebezpiecznych nawiasach społecznej irytacji.*

*(Kurier Poranny, nr 185, Tadeusz Jacewicz)*

*Porażka „centroprawicy" jest w jakimś sensie porażką polskiej demokracji. Ale porażką zawinioną nie przez demokrację, a samą „centroprawicę".*

*(Kurier Poranny, nr 185)*

*Dlaczego prawica nie myśli?*

*(Polityka, nr 38)*

Усе наогул пагаджаюцца, што *lewica* выйграла выбары дзякуючы *prawicy* (якая была дурная), што *prawica* прайграла выбары дзякуючы *prawicy* (як вышэй), а дэмакратыя прайграла таксама дзякуючы *prawicy* (тое самае). Усяму вінаватая *prawica*, а ў існаванні *prawicy* вінаватая дэмакратыя, якая тую *prawicę* нарадзіла. Значыць, наогул вінаватая дэмакратыя. Гэтую праўду, як здаецца, доўга будзе разжоўваць і адзін бок (якому трэба браць уладу), і другі (якому тую ўладу трэба здаваць). І ўсім будзе горка.




**„Калі гаварыць пра правы чалавека,** дык мы ўсе — суседзі, нягледзячы на геаграфічныя адлегласці" — сказала прэм'ер-міністр **Ганна Сухоцка** на інаўгурацыі варшаўскай сустрэчы **Канферэнцыі бяспечнасці і супрацоўніцтва ў Еўропе.** На працягу трох тыдняў дэлегацыі 53 краін інфармавалі аб тым, як у іх краінах рэалізуюцца прынцыпы прававой дзяржавы, як функцыянуюць інстытуты дэмакратыі і як выконваюцца правы чалавека. Польская дэлегацыя прапанавала, каб усе дакументы КБСЕ, якія тычацца правоў чалавека, сабраць у адзін **Акт правоў чалавека.**

**75 працэнтаў рэспандэнтаў** Цэнтра даследавання грамадскай думкі (CBOS) лічыць, што ўрад, які будзе створаны новаабраным Сеймам павінен перш за ўсё абмежаваць беспрацоўе. Палова апытаных уважае, што яго асноўнай задачай павінна быць паправа сітуацыі ў сельскай гаспадарцы, а 43 працэнты — мяркуе, што ўрад павінен заняцца паляпшэннем умоў жыцця найбяднейшых слаёў грамадства.

„Можна спадзявацца, што **першае пасяджэнне Сейма будзе склікана Прэзідэнтам РП 14, а Сената** — 15 кастрычніка" — заявіў прэс-сакратар Бельведэра **Анджэй Джыцімскі.**

**„Салідарнасць"** не акцэптуе новых суадносін палітычных сіл, якія паўсталі ў выніку парламенцкіх выбараў — заявіў нядаўна старшыня гэтага прафсаюза **Мар'ян Кшаклеўскі** падчас перапынку ў пасяджэнні Прэзідыума Краёвай камісіі ў Гданьску. Лідэр „Салідарнасці" сказаў, што яго прафсаюз будзе цяпер больш рэстрыкцыйным і радыкальным, але заадно будзе прытрымоўвацца права.

**Спроба аспрэчваць вынікі выбараў** шляхам пазапарламенцкіх дзеянняў: страйкі, дэманстрацыі і т.п., была б пратэстам супраць дэмакратыі — сказаў **Лешак Бальцаровіч.** — А да гэтага ніхто не мае права, незалежна ад таго, на якое пахвальнае мінулае можа спасылацца.

**Беластоцкае ваяводства ў Сейме прадстаўляць будуць восем паслоў** ад чатырох партый. Парламенцкія мандаты атрымалі чатыры кандыдаты ад СЛД: **Владзімеж Цімашэвіч, Сяргей Плева, Станіслаў Малішэўскі і Мечыслаў Антоні Пецка,** два — члены Уніі працы: **Аляксандр Малахоўскі і Артур Смулко,** а таксама **Адам Чэслаў Дабронскі** ад ПСЛ і **Кшыштаф Вольфрам** ад Дэмакратычнай уніі.

**Старанні Выбарчага камітэта Беларускага саюза ў РП аказаліся безвыніковымі.** Поспехам закончыліся намаганні выбарчых камітэтаў нямецкай меншасці, якія здабылі чатыры парламенцкія мандаты ў Сейме. Таксама ўкраінцы будуць мець свайго пасла. Стаў ім **Міраслаў Чэх,** які балаціраваўся са спіска Дэмакратычнай уніі.

**Прынята ўжо афіцыйнае рашэнне аб перадачы манастыра ў Супраслі праваслаўным.** Пасля пасяджэння Рады Міністраў 28 верасня г.г. шэф Управы РМ **Ян Марыя Ракіта** пацвердзіў, што ўласнікам Супрасльскай лаўры стане Праваслаўная Царква.

**Міжнародная транспартная канферэнцыя** адбылася ў Вісле. Была яна прысвечана чыгуначнаму перавозу тавараў у напрамках Усход — Захад і Захад — Усход. У канферэнцыі прынялі ўдзел спецыялісты з многіх краін Еўропы.

**У II Форуме будаўніцтва „Bud-Expo'93" у Беластоку** ўдзельнічала звыш ста фірмаў. Мерапрыемству спадарожнічала выстаўка матэрыялаў і праектаў будаўнічых тэхналогій. Арганізатары запрасілі таксама прадстаўнікоў гандлёвых арганізацый з Калінінграда і Беларусі.

**Дні Расеі ў Беластоку** — так называлася трохдзённае мерапрыемства, арганізаванае Таварыствам супрацоўніцтва Польшча — Усход, Расейскім цэнтрам культуры і інфармацыі і Цэнтрам кірмашоў і папулярызацыі ўсходняга рынку. Апрача кніжнага і будаўнічага кірмашоў можна было паслухаць салістаў з Калінінграда.

**Выстаўка грыбоў Белавежскай пушчы** была наладжана ў Прыродазнаўчым музеі ў Белавежы. Суарганізатарам выставы, на якой экспанаваліся 180 віды грыбоў, быў Музей нацыянальнага парку „Белавежская пушча" ў Камянюках на Брэстчыне.

**1 млн. 750 тысяч злотых** — гэта мінімальная зарплата ў IV квартале г.г., устаноўлена ў выніку перамоў урада з прафсаюзамі. Ранейшая мінімальная плата — 1,5 млн. зл.

**У Рагачах,** што ў Мілейчыцкай гміне, легкавая машына збіла веласіпедыста. Шафёр пакінуў ахвяру без дапамогі і ўцёк з месца здарэння.




Супрасльскі манастыр вернуты Праваслаўнай царкве.

Беларускае войска будзе вучыцца гаварыць па-беларуску.

Нацыянальныя меншасці пішуць мемарыял новаму Сейму.

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

## ЦІ СКАЛАНЕЦЦА БЕЛАРУСЬ АД КАШЛЮ Ў РАСЕІ

Расея ў чарговы раз дзівіла свет сваёй непрадказальнасцю і здольнасцю да рэвалюцыйных пераваротаў. А, па трапнаму выразу спікера парламента Станіслава Шушкевіча, „калі Расея кашляе, Беларусь скаланаецца". Падваенне міфічнай улады ў суседняй краіне падзяліла на два процілеглыя лагеры і палітычныя сілы ў Беларусі.

Народны рух Беларусі даслаў заяву Р. Хасбулатаву і А. Руцкому, у якой выказвае падтрымку і салідарнасць, а 22 верасня г.г. арганізаваў пікетаванне Расейскага пасольства ў Менску. 25 палітычных партый і арганізацый дзеянні Б. Ельцына ацанілі як дзяржаўны пераварот.

Вярнуўшыся з Масквы, старшыня Вярхоўнага Савета РБ Станіслаў Шушкевіч адзначыў на праэс-канферэнцыі, што лічыць крокі прэзідэнта Ельцына апраўданымі, свядома падтрымлівае яго і мяркуе, што палітыка расейскага прэзідэнта — шлях да сапраўднай дэмакратыі.

Адзначыўшы падабенства сітуацыі, якая склалася ў Расеі са становішчам у Беларусі, апазіцыя Беларускага народнага фронту лічыць падзеі ў Расеі добрым прыкладам для нашай рэспублікі. Прадстаўнікі апазіцыі лічаць першачарговай задачай усіх некамуністычных і антыімперскіх сіл у Беларусі ажыццяўленне адстаўкі Савета Міністраў і стварэнне часовага (да выбараў парламента) кааліцыйнага ўрада рэспублікі.

## УСЁ ВЫШЭЙ, І ВЫШЭЙ, І ВЫШЭЙ

31 кастрычніка жыццё ў Беларусі падаражэе ў сярэднім у 2-2,5 разы. Чакаецца павышэння цэнаў на электраэнергію, газ, многія прадукты харчавання першай неабходнасці, у прыватнасці, малако і хлеб, узрасце аплата жыллёва-камунальных паслуг.

Кошт спажывецкага кошыка складзе не менш за 40 тысяч рублёў, у той жа час мінімальная заработная плата будзе роўная толькі 15 тысячам і атрымаюць яе жыхары Беларусі толькі ў лістападзе.

## ПАЧАЎСЯ АДСТРЭЛ ПАЛІТЫКАЎ

На мінулым тыдні на гродзенскіх могілках быў пахаваны старшыня Абласнога савета народных дэпутатаў Дзмітрый Арцымена. Ён быў забіты невядомымі каля веснічак уласнага дома.

Відавочна, што злачынства здзейснена не адзінокім маньякам, а прафесійным забойцам. Следствам распрацоўваюцца многія версіі. Жонка забітага лічыць гэта забойства палітычным.

Як заявіў начальнік упраўлення КДБ Рэспублікі Беларусь па Гродзенскай вобласці Леанід Сцепаненка, ніякага націску на следства не аказваецца і справа будзе расследавана самым сур'ёзным чынам. Тым больш, што для арганізацыі следства ў Гродна прыбыў генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь Васіль Шаладонаў.

## БАЛТЫЙСКАЯ ДУДКА

У Менску адбыўся II Балтыйскі дударскі фэст, у якім удзельнічалі дудары 12 краін Паўночнай і Сярэдняй Еўропы — Англіі, Беларусі. Бельгіі, Галандыі, Латвіі, Літвы, Германіі, Славакіі, Францыі, Швецыі, Эстоніі. Для аматараў аўтэнтычнай еўрапейскай музыкі дудары наладзілі канцэрт з танцамі, спевамі і гульнямі.

## АФІЦЭР СУМУЕ ПА СССР

На другім з'ездзе Саюза афіцэраў Рэспублікі Беларусь прысутнічала каля 500 дэлегатаў і гасцей — прадстаўнікоў Саюзаў афіцэраў Расеі, Украіны, Прыбалтыкі. Мяркуючы па прысутнасці на форуме вайскоўцаў такіх дзеячаў палітычных і грамдскіх арганізацый Беларусі і блізкага замежжа, як старшыня прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР С. Умалатаў, генерал-палкоўнік А. Макашоў, старшыня Народнага руху Беларусі С. Гайдукевіч, асноўным матывам для склікання з'езда была настальгія па часах існаваня адзінай і непадзельнай савецкай дзяржавы. Таму большасць выступаючых на гэтай сустрэчы патрабавалі дэнансаваць белавежскія пагадненні і аднавіць Савецкі Саюз у межах экс-СССР.

## АПАЗІЦЫЯ ПАДТРЫМАЕ ШУШКЕВІЧА

Ёсць верагоднасць, што на чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, калі паўстане пытанне аб недаверы кіраўніку парламента, апазіцыйныя дэпутаты, нягледзячы на тое, што Станіслаў Шушкевіч не выкарыстоўвае ўсё ж у пэўнай ступені свае магчымасці на карысць дзяржаўнага суверэнітэту, зноў падтрымае яго. Абодва бакі імкнуцца да захавання Беларусі як незалежнай і дэмакратычнай дзяржавы.

## КУДЫ ЦЯПЕР ПАДЗЕЦЦА ЗНЯВОЛЕНЫМ?

Раённыя ўлады і мясцовыя жыхары Пружаншчыны аднадушна выступілі супраць размяшчэння на тэрыторыі трох былых ваенных гарадкоў папраўчых калоній. Аднак, як лічаць начальнікі аддзела па выкананню пакаранняў упраўлення ўнутраных спраў брэсцкага аблвыканкама, без адкрыцця новых турмаў у рэспубліцы сёння ніяк не абысціся. З Расеі ўжо прыбылі ў Беларусь каля дзесяці тысяч зняволеных. Трэба адбываць пакаранне па закону і новым злачынцам.

## ВЫДАТНІКІ ЗАСТАЛІСЯ БЕЗ МЕДАЛЁЎ

Падобна на тое, што ў хуткім часе выпускнікі ўсіх беларускіх школ будуць атрымліваць аднолькавыя атэстаты, не зважаючы на тое, што для выдатнікаў параней шаму існуе такая ўзнагарода як залаты медаль. Справа ў тым, што школьныя медалі для ўсяго Савецкага Саюза выраблялі раней у Маскве, а для перавозу праз мяжу (Расея ж зараз іншая дзяржава) пакрытых тонкім слоем каштоўнага металу медалёў патрабуецца ні многа, ні мала — міжурадавае пагадненне.

МІКОЛА ДЗЯБЁЛА

## ЦІ БЕЛАВЕЖЦЫ АДБЯРУЦЬ СВОЙ ПОМНІК?

Маем якраз спрыяльны час для вяртання законным уладальнікам іх уласнасці. Невядома, як доўга ён будзе працягвацца, і таму многія пацярпеўшыя, а нават іх нашчадкі, спяшаюцца. Людзям вяртаюць дамы, заводы, пляцы ды шмат чаго іншага. Дрэмлюць, здаецца, адны белавежцы! Шмат гадоў таму ім забралі гістарычную памятку і яны па сённяшні дзень не здолелі яе адабраць. Але, па чарзе!

Восенню 1860 г. у Белавежскай пушчы паляваў цар Аляксандр II. На памятку аб гэтым здарэнні ў 1862 г., паблізу невялічкага лясного пасялення Звярынец, менш-больш у палове дарогі з Гайнаўкі ў Белавежу, была ўстаноўленая чыгунная выява зубра. Яе выканалі ў Пецярбурзе, у фабрыцы Агар'ева. На пастаменце помніка віднеў надпіс, паясняючы, з якой нагоды ён тут стаіць.

Помнік аглядалі, між іншым, вядомыя польскія пісьменнікі Генрык Сянкевіч і Эліза Ажэшка. Іншы вядомы пісьменнік, Ігар Нэверлі (сапраўднае прозвішча Абрамаў), дарэчы, народжаны ў... Звярынцы, будучы яшчэ хлапчуком, нярдз улазіў чыгуннаму зубру на хрыбет. Свае гульні апісаў ён у адной навелы.

Помнік цешыў вока і наведвальнікаў, і мясцовых. Аж надышоў жнівень 1915 г. Белавежцы былі вымушаны падацца ў бежанства. Царскае войска вывезла ў след за імі і чыгуннага зубра.

Пасля I сусветнай вайны Белавежская пушча апынулася ў межах Польшчы. Польскія ўлады ў 1924 г. дабіліся звароту помніка. Але ён не трапіў у Белавежу, а ў Варшаву. На дзядзінцы Каралеўскага замка прастаяў чатыры гады, каб потым трапіць у... Спалу! Дакладна невядома, хто і па якой прычыне гэтак вырашыў. Ходзяць розныя чуткі, але іх цяпер ужо не праверыць, запозна! Найхутчэй было так, што прэзідэнт Рэчыпаспалітай, Ігнацы Масціцкі, захацеў упрыгожыць зубром сваю спальскую паляўнічую рэзідэнцыю.

Белавежскі помнік знаходзіцца ў Спале ўжо 65 гадоў, значыць, на дванаццаць гадоў даўжэй, чым у Звярынцы.

Падчас II сусветнай вайны немцы, у пошуках скарбу, адрэзалі зубру галаву. Калі ўнутры нічога не знайшлі, назад яе прыпаялі на сваё месца. Другая версія кажа, што галаву адрэзаў на памятку нейкі нямецкі афіцэр, і што яе знайшлі недзе ў рове побач цела таго ж афіцэра, забітага савецкім войскам. Як бы там не было, „вісельнічная палоса" асталася зубру назаўсёды.

Белавежцы не спяшаліся з вяртаннем сваёй памяткі, хаця час да часу прэса быццам іх заахвочвала ад гэтага, пішучы аб справе. Толькі ў 1981 г. завязаўся ў Белавежы грамадскі камітэт па справах вяртання помніка. Камітэт з дзевяці чалавек узначальваў настаўнік з Лясного тэхнікума, Ян Казак. Адзін з членаў камітэта, д-р Чэслаў Аколаў, сабраў адпаведную дакументацыю і прадстаўнікі камітэта адправіліся ў Спалу агледзець помнік. На месцы прадставілі яны свае патрабаванні Гміннай радзе. Як можна было спадзявацца, тамашнія радныя не згадзіліся аддаць помнік. Белавежцы паслалі свае патрабаванні ў Ваяводскую нарадовую раду ў Пятркове-Трыбунальскім. Адказу так і не дачакаліся, бо якраз увялі „ваенная становішча".

Прайшлі два гады, калі аб справе нанава пачала пісаць рэгіянальная прэса. Далучылася да яе і Беластоцкае радыё. У выніку гэтага Лехаслаў Зуберт з Лодзі стварыў... Грамадскі камітэт абароны спальскага зубра. Камітэт гэты аблаяў у лодзінскай вячорцы белавежцаў, а іх патрабаванні назваў скандальнымі. Белавежцы хіба перапалохаліся гэтай атакі, бо іхняя дзейнасць амаль зусім спынілася, хаця ў тым часе хворага старшыню камітэта Я. Казака заступіў Аляксей Семянюк. Праўда, А. Семенюку ўдалося зацікавіць справай аднаго з дырэктараў гданьскай верфі, які пачаў накопліваць сыравіну для выканання копіі помніка для Спалы, але з гэтага ўжо і так нічога не выйшла. З часам камітэт распаўся. Справа так і асталася нявырашаная.

Падчас апошніх выбараў у Раду гміны Белавежа, дацэнт Сімона Косак абяцала давесці да канца справу вяртання помніка. Ведаючы яе настойлівасць і шырокія знаёмствы, можна было спадзявацца, што яна стрымае сваё слова. На жаль, дацэнт Косак выбары прайграла. Людзі проста пабаяліся яе салідарніцкага мінулага. У Раду выбралі „сваіх", значыць беларусаў. А ім, відаць, справа вяртання помніка малаістотная, бо ніхто пра яе і не заікнецца.

Хочацца ўсклікнуць: „Белавежцы, не спіце, выкарыстайце спрыяльны час!" Усё ж я баюся, што на мой заклік водгук будзе такі, быццам „у ваду пёрнуў", як некалі скардзіўся ў „Ніве" пакойны ўжо Дзядзька Квас.

**ПЁТР БАЙКО**
**Фота Чэслава Аколава**



*Фрагмент помніка зубра (на шыі відаць пашкоджанне).*

## ДЗЕ ІМ ШУКАЦЬ СПРАВЯДЛІВАСЦІ?

Сёння людзі, якіх у час гітлераўскай акупацыі вывезлі немцы на прымусовыя работы ў Германію, атрымліваюць аднаразовую кампенсацыю ад нямецкага ўрада, у залежнасці ад таго, колькі часу там працавалі. Пацярпеўшых ёсць шмат, але вельмі ж многа іх ужо няма ў жывых. Каб атрымаць кампенсацыю, неабходна мець двух сведкаў, якія пацвердзяць месца прабывання, бо дакументаў пра гэта, бадай, у нікога не захавалася. Баўэргаспадар таксама хіба не вёў ніякіх рэгістрацыйных кніг сваіх нявольнікаў.

Нашыя людзі прабывалі на прымусовых работах пераважна ва Усходняй Прусіі, сёння тэрыторыі Польшчы і Калінінградскай вобласці Расеі. Я разношу людзям лісты якраз ад Fundacji "Polsko-Niemieckie Pojednanie", ul. Krucza 36, Warszawa, у якіх ёсць або кампенсацыя-чэк, або адказ. Пацярпеўшыя атрымліваюць ад 6-ці да 18-ці мільёнаў злотых кампенсацыі. На сённяшні час гэта для пенсіянера вялікая падтрымка і пацеха. Але я хачу расказаць вам асаблівую гісторыю пра адну сям'ю, якая ад гітлераўцаў пацярпела як мала хто, але вінаўніка не знойдзеш па адной прычыне: няма дакументаў. Гэта абсурд, але так яно ёсць!

У вёсцы Тафілаўцы, у Дубіцкай гміне, у 1942 годзе ўсю сям'ю Юзафа Бахмата вывезлі ў Нямеччыну: гаспадара, яго жонку Ганну, сыноў -- Івана, Мікалая, а таксама двое маленькіх блізнятак і дачку -- Марыю. Усяго -- сем чалавек. Чаму менавіта вывезлі ўсю сям'ю? Гэта рэдкі выпадак. Праўдападобна, пра гэта паклапаціліся мясцовыя "дабрадзеі". Тры гады сям'я Бахматаў прабывала ў Прусіі. Хлебанулі яны гора, колькі хочаш. Памерлі блізняты. Цяжка было з малымі Іванам, Колем і Маняй. Вярнуліся потым дамоў на папялішча.

У мясцовасці, дзе прабывалі Бахматы, наведваў іх аднавясковец з Тафілаўцаў Ян Рыбак, сын Яна, а таксама Мікалай Александрук з Гайнаўкі родам. Яны працавалі ў суседняй мясцовасці, таму і сталі сведкамі. Але -- надарэмна, іх сведчанні не палічылі істотнымі.

Юзафа Бахмата няма ўжо ў жывых -- памёр восем гадоў таму назад. Следам пайшоў і старэйшы сын Іван. Засталася старэнькая бабулька -- Ганна, жыве з нявесткай-удавой Нінай. Мікалаю і Марыі таксама належыцца кампенсацыя. Fundacja "Polsko-Niemieckie Pojednanie" не прызнала Ганне Бахмат ніякай кампенсацыі. Ужо тры разы бабулька, якой ужо за 80 гадоў, атрымала адмоўныя адказы. Два разы пісаў адкліканні ў фундацыю ўнук Ганны (яна сама -- непісьменная), але ўсё дарма. Дык яшчэ цэлая вёска Тафілаўцы, а нават і суседнія, як Дубічы-Царкоўныя -- усе яны могуць быць сведкамі драмы сям'і Бахматаў, усе могуць пацвердзіць факт прабывання іх у нямецкай няволі цэлыя тры гады. Хіба ж фашысты не вывозілі Бахматаў на нейкі курорт?!

Ці ў бюракратаў з вуліцы Кручай 36 у Варшаве ёсць сумленне і сорам? Цікава, ці ў тых, хто паліў нашыя вёскі пасля вайны, ёсць паперы на гэта? Яны ж саратнікі, мучанікі і героі, і грошы атрымліваюць за свой пачын. А хто пацвердзіць галгофу спакойнай беларускай сям'і?

Цётка Ганна Бахмат надзеецца ўжо толькі на "Ніву".

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## ВОДАПРАВОД АМАЛЬ У КОЖНАЙ ВЁСЦЫ

— Яшчэ ў першай палове 1990 года ў **Арлянскай гміне** водапровод быў толькі ў самай Орлі і так званыя гідрафорні ў Крывяцічах і Алекшах. У тым жа ды наступным годзе пабудавалі водаправоды ў Дыдулях, Алекшах і Градалях. У 1992 годзе ваду з крана атрымалі жыхары Кошак, Тапчыкалаў і Пашкоўшчыны. Сёлета водапровод правялі ў Шэрні і Маліннікі, ды з Дыдуляў у Круглае і далей у Маскеўцы, а таксама з Тапчыкалаў у Спічкі, — паінфармаваў войт Міхал Іванчук.

У наступным годзе водапровод спалучыць вёскі: Грыгароўцы, Вульку-Выганоўскую і Чэхі-Забалотныя, а ў 1995 годзе — Рудуты, Паўлінова і Вульку-Малую. Чыстую як крышталь ваду будзе мець амаль 90 працэнтаў усіх салэцкіх вёсак (іх тут дваццаць тры).

— Вады ў студнях усё менш і менш, а да таго не заўсёды надаецца яна да піцця. Таму пабудова водаправодаў — важная справа. Ёсць аднак і такія выпадкі, калі некаторыя з сялян робяць усё насуперак, — кажа войт. — Адзін з гаспадароў з вёскі Шэрні, Міхал Кукулка, не дазваляе правесці водаправодныя трубы цераз сваю саракаметровую „дзялку". На ёй растуць усяго толькі кусты, трава ды мох, зямля V і VI класаў. Але ж заўпарціўся: „Не ды не. Не ўступлю і ўсё". На шчасце, усе іншыя ў Шэрнях і не толькі, не такія ўжо нядобразычлівыя.

У Арлянскай гміне водаправоды будуюць найменшым коштам. Гмінная ўправа сама купляе ўсе неабходныя матэрыялы: трубы, гідранты, вадамеры і іншыя гідраўлічныя прылады. Выканаўцы самыя надзейныя і не „хапуны". Гэта суполкі: Паслуговае прадпрыемства „Выгода" і Прадпрыемства водна-інжынерных работ „Эко-Інсбуд" з Бельска-Падляшскага.

* * *

У гміне **Дубічы-Царкоўныя** водаправоды будуюць у Вярстку і Вілюках. У карыстанне здадуць іх у лістападзе гэтага года. У наступным годзе ваду з крана будуць мець жыхары Войнаўкі і Доўгага Броду. Гэтую выгаду маюць ужо жыхары дванаццаці салэцкіх вёсак (а ўсіх іх тут семнаццаць), у тым ліку Грабавец, Дубічы-Царкоўныя, Ягаднікі, Стары Корнін, Тафілаўцы, Чэхі-Арлянскія. Водаправоды пракладвае бельская суполка „Эко-Інсбуд".

**ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**

## НАШ РОДНЫ КУТ...

...як ты нам мілы: сэрцу нам блізкая Беласточчына — наша маленькая Айчына. І хто цябе раз пакахае, забыць ужо не будзе мець сілы. Вось Міхась Купцэль, які пражывае каля мора, пісаў аднойчы на старонках „Нівы", што Грыша Мароз распісаўся, але пра яго родную вёску, Махнатае, не піша. Так, шаноўны Міхась, апошнім часам пішу. Калісьці Вера Валкавыцкая казала, што той, хто піша, штосьці ў сабе мае. Другі скажа: дурань, дык піша. Можа гэта і праўда, што і дурням між разумнымі месца хопіць. Вось і пішу; а пра Махнатае я не пісаў, бо неяк так атрымалася. Цябе, відаць, цікавіць кожная вестачка пра сваю родную вёску; гэта вельмі добра. Праўду хтосьці казаў, што калі вестка ад знаёмых не прыходзіць — усё на месцы: значыць, яшчэ жывуць. Таксама і дарагая табе вёска Махнатае жыве, і то жыццём здаровым! Не пашкодзіў яе ні час, ні „ўсходняя сцяна"; яна пражыве яшчэ многа гадоў. Яна цяпер спалучылася з маім Беразовам, толькі табліца інфармуе, дзе пачынаецца Махнатае. Ды і што пра яе напісаць? Вёска вялікая, прыгожая і багатая. Жывуць тут працавітыя людзі — пра гэта можна пераканацца, едучы праз вёску. Абапал асфальтаванай вуліцы, абгароджанай памаляванымі платамі, стаяць прыгожыя дамы. У дамах водаправоды, пламуецца і каналізацыя. У вёсцы красуецца нядаўна здадзены ў карыстанне прыгожы клуб. Працуе школа, — невядома толькі, пад чыёй знойдзецца яна апекай. Дзейнічае яшчэ і калектыўная гаспадарка, т. зв. „калхоз"; працуюць у ім старанлівыя людзі, бо яшчэ да гэтай пары гаспадарка існуе. Гаспадары ў вёсцы маладыя, працаваць умеюць і хочуць. Сведчыць аб гэтым і тое, што маюць яны шэсць штук адных толькі збожжавых камбайнаў. Праўда, людзі і тут таксама наракаюць і на ўладу, і на свой быт. Такі час! Толькі калі сустрэнешся з імі, становішча шчырымі і адданымі. Такая ўжо беларуская душа: „Чым хата багата, тым і рада." А іхняя хата будзе яшчэ доўга багатай.

Жыве, Міхась, твая вёска і яшчэ доўга жыць будзе. Няхай Тваё сэрца хаця гэтым цешыцца. А мы з дня на дзень лепшага часу чакаем, сам ведаеш, калі гэтае сонейка ўзыдзе і праменьчык надзеі нам засвеціць.

**ГРЫША МАРОЗ**

# ФАБІЯН АКІНЧЫЦ І ЯГОНЫ ЛЁС

### ЧАСТКА ЧАЦВЕРТАЯ

Акінчыц, Астроўскі, Луцкевіч — гэта вузкае кіраўніцтва Цэнтрасаюза, якое рашала пра ідэалогію і формы дзейнасці групы. Ніхто не прадвяшчала, што ў Галоўнай радзе руху існуюць вельмі вострыя ідэалагічныя падзелы, якія могуць давесці аж да расколу. Аднак зусім нечакана ў пачатку мая 1931 года з Цэнтрасаюза выступае Акінчыц, прабуючы заснаваць рух пад назвай Віленская беларуская група „Адраджэнне”. Прычыны сваіх дзеянняў тлумачыў ён беларускаму грамадству ў аднадзёнцы „Беларуская праўда” тым, што беларуская санацыя не патрапіла выпрацаваць новыя формы дзейнасці і ў будучыні гэты рух чакае палітычнае паражэнне. Пры нагодзе Акінчыц вельмі моцна выступіў супраць Луцкевіча, закідаючы яму нават схільнасць да камунізму. З перспектывы часу відаць, што выступленне Акінчыца з Цэнтрсаюза было вынікам празмернага росту ягоных палітычных амбіцыяў.

Зроблены Акінчыцам раскол паглыбіў яшчэ мацней унутраны крызіс беларускіх палітычных плыняў, якія ў неспрыяючай ім дзяржаве шукалі новых праграмных развязак. Прапанаваная ім палітычная платформа была вельмі ўбогая і зводзілася толькі да двух пунктаў: абсалютная лаяльнасць у дачыненні да Польшчы і барацьба з камунізмам. Такая праграма была даспадобы польскім уладам, але ці гэта яны стаялі за Акінчыцам і зманілі яго нейкімі абяцаннямі да раскольнага кроку, на аснове вядомых мне матэрыялаў цяжка адназначна адказаць. Ягоная дзейнасць зводзілася на практыцы да выдавання газеты „Праўда”, а пасля „Голасу праўды”, у якіх змяшчаліся амаль выключна антысавецкія матэрыялы. У чытача можа скласціся ўражанне, што газета магла б быць фінансаваная дзяржавай, бо на яе старонках не знайшліся артыкулы накіраваныя сваім вастрыём супраць польскай палітыкі ў дачыненні да беларусаў. А пісаць было пра што. Астроўскі з Луцкевічам вельмі востра адрэагавалі на выступленне Акінчыца. У сваёй партыйнай прэсе ягоныя дзеянні параўналі да дзейнасці такіх паланафілаў, як Аляксюк, Паўлюкевіч, Вернікоўскі. Закінулі яму, што такая работа вядзецца Акінчыцам за грошы тых людзей, якіх мэтай ёсць разбіццё ўсяго, што беларускае.

Спроба стварыць самастойную палітычную групу закончылася для Акінчыца паражэннем і кампраметацыяй. Сярод асоб, якія яго падтрымалі, знайшліся былы пасол Юры Сабалеўскі (той жа самы, які ўцягнуў яго ў Грамаду), Янка Станкевіч, а таксама Уладзіслаў Казлоўскі — ураджэнец вёскі Залессе на Сакольшчыне, з гэтай пары яго неадлучны сябра. У выніку няўдачы сваёй акцыі на пачатку 1932 года Акінчыц вяртаецца ў Стоўбцы, дзе таксама спрабуе арганізаваць паланафільскую групу, аднак ягоныя намаганні не адабраюцца ні беларускім грамадствам, ні польскімі ўладамі. Урэшце Акінчыц зразумее, што беларусы не маюць аніякіх ідэалагічных, гаспадарчых, культурных асноў і ахвоты на стварэнне паланафілства. Польская дзяржава не хоча прызнаваць нацыянальнай і культурнай адметнасці, не гаворачы пра палітычныя патрабаванні аўтаноміі. Аналіза сітуацыі пазбаўляе яго ілюзіяў наконт магчымасці вырашэння беларускага пытання з дапамогай Варшавы.

Далейшую дзейнасць Ф. Акінчыц працягвае ў Беларускім дабрачынным таварыстве ў Стоўбцах, аднак ужо без ніякіх прапольскіх акцэнтаў. Па яго ініцыятыве ў Стаўбцоўскім павеце адбылося шмат вечарын, прысвечаных беларускай культуры і гісторыі. Ваяводская ўправа ў Навагрудку пільна сачыла за ягонымі дзеяннямі і акуратна адзначала ўсе арганізаваныя ім мерапрыемствы. Вось некалькі фрагментаў справаздач:

„11.X.1932. W Stołpcach zorganizowano wieczór pieśni białoruskiej, na którym popisywał się chór parafii prawosławnej w Stołpcach i chór młodzieży wiejskiej ze Starego Swerina. Na wieczór przybyło około 250 osób, przeważnie młodzieży białoruskiej ze Stołpców i okolic. Inicjatorem i organizatorem imprezy był Fabian Akińczyc.

9. I. 1933. W powiecie stołpeckim działalność kulturalno-oświatowa Białoruskiego Towarzystwa Dobroczynności w Stołpcach podtrzymuje w dalszym ciągu działacz białoruski Fabian Akińczyc, który w dniu 26. XI. 1932 r. zorganizował akademię ku uczczeniu 50-lecia urodzin poetów Janki Kupały i Jakuba Kołasa... O życiu i twórczości J. Kołasa mówił brat poety Michał Mickiewicz... Obecnych było około 200 osób.

9. II. 1933. W dniu 19. I. r. b. Białoruskie Towarzystwo Dobroczynności w Stołpcach zorganizowało przedstawienie amatorskie w języku białoruskim. Obecnych około 250 osób. Działalność tego Towarzystwa ożywia działacz białoruski Fabian Akińczyc.

9. III. 1933. Białoruskie Towarzystwo Dobroczynności w Stołpcach organizowało zabawę. W czasie zabawy po przedstawieniu grupa młodzieży polskiej zaśpiewała „Pierwszą brygadę” — akcentując tym swoje stanowisko wobec nacjonalizmu białoruskiego. Oczywiste, że kilku Białorusinów, wraz z prezesem T-wa Fabianem Akińczycem okazało z tego powodu pewne niezadowolenie.

На пачатку 1933 года Акінчыца выбіраюць старшынёю Беларускага дабрачыннага таварыства ў Стоўбцах, у якім праяўляе яшчэ раз свае вялікія арганізацыйныя здольнасці. Здаецца, што ягоная актыўнасць вынікае таксама і часткова з патрэбы рэабілітацыі ўласнай асобы ў вачах беларускага грамадства. Хацелася яму асабліва зацерці некарыснае ўражанне з часоў паланафільскіх памкненняў.

Ягонай мэтай стане патрэба павароту да дзейнасці на віленскім форуме. 28 чэрвеня 1933 года БДТ у Стоўбцах, якім кіруе Акінчыц, складае афіцыйную заяву ў Беларускі нацыянальны камітэт у Вільні, што хоча ўступіць у ягоныя структуры, прызнаючы афіцыйна кіраўнічую ролю Камітэта ў беларускім жыцці. Прэзідыум БНК на паседжанні 21 кастрычніка 1933 г. рашыла прыняць у свае рады стаўбцоўскае таварыства, а сярод ягоных прадстаўнікоў апынуўся і Акінчыц.

Як я ўспамінаў раней, БНК у Вільні знаходзіўся ў сферы ўплываў БХД і наогул не прымаў у свае рады прапольскіх і прамаскоўскіх груповак. Прынясцё ў свае рады БДТ са Стоўбцаў было нейкім чынам дараваннем Акінчыцавых грахоў. Рэабілітацыя была яму патрэбная дзеля таго, каб магчы пачаць найважнейшую справу свайго жыцця — стварыць Беларускую партыю нацыянал-сацыялістаў.

*Працяг будзе.*

**ЯЎГЕН ВАПА**

# ПАРТЫЗАНЫ, ПАРТЫЗАНЫ

Такі загаловак даў калісьці свайму вершу наш слаўны паэт Янка Купала. І невыпадкова, бо партызаны карысталіся вялікай пашанай і славай народных мсціўцаў. Не хачу, крый Божа, падрываць іх геройства, хачу толькі напісаць сваю праўду. Партызан можна падзяліць на дзве групы: герояў і марадзёраў. На пачатку апошняй вайны з разбітых савецкіх часцей фармаваліся дробныя партызанскія атрады, якія пачыналі сваю дзейнасць з грабяжу мясцовага насельніцтва і непрадуманых нападаў на маленькія групы немцаў. Які быў канец гэтых акцый, мы ведаем: немцы люта мсціліся, падпальвалі вёскі і расстрэльвалі або палілі жыўцом іх нявінных жыхароў. Нядаўна прачытаў я ў „Кур’еры Падляшскім”, што падчас акупацыі ў нейкім польскім мястэчку на Беласточчыне АКоўцамі быў выкананы смяротны прыгавор на нейкім паліцаі. Вынікам гэтага было смяротнае пакаранне пяцідзесяці мясцовых мірных жыхароў. „Кур’ер” нічуць не асуджае гэтую акцыю, а наадварот, выхваляе яе. І дзе тут логіка: ці за аднаго смярдзючага паліцая варта было аддаваць такую вялікую ахвяру чалавечай крыві? Або трагедыя ў Райску, якая здарылася ў 1942 годзе: некалькі мірных немцаў-чыгуначнікаў прыехалі ў Райск, каб купіць яйкі ўзамен за сахарын і іншыя прадукты. Набраўшы цэлую сумку яек, нямецкія чыгуначнікі вярталіся аўтамабілем дамоў. На іх ужо чакалі „мясцовыя” партызаны, сярод якіх быў і жыхар суседняй вёскі, які падчас савецкай акупацыі быў дэпутатам і пасылаў у Сібір сваіх аднасяльчан. І вось такія партызаны забілі гэтых некалькіх немцаў каля раенскіх могілак, а згаданы „дэпутат” падбег да мёртвых немцаў, выхапіў іхную сумку і пабег са сваімі сябрамі ў лес. Ён думаў толькі пра нямецкую сумку з прадуктамі, а не пра лёс жыхароў Райска. І хаця камандзір атрада, нейкі расточнік, аблаяў іх за гэты дурны, непрадуманы ўчынак, але гэта былі толькі словы, якія ўжо не маглі адвярнуць трагедыю ад Райска. Пасля вайны той, што схапіў сумку быў нейкім дзеячам на Бельшчыне і можа яшчэ і сёння атрымоўвае спецыяльную пенсію за сваё „геройства”. Падобных выпадкаў, дзе з-за нейкага дурня гінулі нявінныя людзі, было многа. Для фронту смерць некалькіх немцаў нічога не значыла, затое ж у тылах гінулі тысячы мірных людзей. Другая справа — гэта рэйдавыя паходы вялікіх партызанскіх атрадаў: Каўпака, Сабурава, Фёдарава; яны стваралі сапраўдны другі фронт. У свой час я захапляўся кніжкамі пра партызан перыяду апошняй вайны, але, кніжка — кніжкай а праўда — праўдай. Мае дзядзькі — Ванька і Мішка (так іх звалі) — супрацоўнічалі з партызанамі з лесу за чыгункай. І яны, партызаны, прыходзілі да дзядзькоў у белы дзень; пра гэта ў нашым канцы вёскі ўсе ведалі, але маўчалі. Ведаў таксама і солтыс, які жыў побач. Даведаўся пра гэта адзін чалавек, які жыў у сярэдзіне вёскі, прыйшоў ён да солтыса і давай яму гаварыць, каб той данёс немцам. Солтыс адказаў: калі ты ведаеш, што да Лярчышыных (так звалі маіх дзядзькоў) прыходзяць партызаны, дык калі ласка, ідзі сам да немцаў і заяві ім пра гэта, бо я нічога не ведаю. Аднак аматар даносу пабаяўся ісці; на дадатак, солтыс перасцярог дзядзькоў і тыя добра правучылі „дабрадзея”, прыдушыўшы яго да сцяны. Аднак, што дзіўнае, чалавек, які хацеў знішчыць маіх дзядзькоў, пры саветах у 1939-41 г. г. быў гарачым прыхільнікам савецкага рэжыму, а зараз пасля вайны стаў вялікім дзеячам народнай улады і камуністам і атрымаў многа крыжоў і медалёў. Мала таго, Дзямян Захожы, важак лясной банды падчас акупацыі, аформіў яму „партызанскі білет”. Вось якая праўда: фальшывых партызанаў у нас многа і ніхто не думае падрываць ім фальшывыя пенсіі за фальшывае геройства.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# ЧОРТ СВАЁ, СВЯТАР СВАЁ

☛ *Працяг са стар. 1*

ванні на новую рызу. Дзядзькі змыліся.

Іншы цікавы эпізод здарыўся на Галавасека ў Шчытах у гміне Орля. Захацелі мы павесіць плакат на мясцовай краме, якая ў той час напаміна першамайскую трыбуну з цэлым плакатным спектрам Сацыял-дэмакратыі. Не паспелі яшчэ сказаць, што ды як, як з крамы выйшаў прадавец Шымчук, і крыху ўстрывожаным голасам сказаў: „А што, прыгожа выглядае, халера, маю ад Толіка яшчэ 100 плакатаў Цімашэвіча, не ведаю толькі, дзе іх развесіць. Мо вы ў сваіх вёсках павесіце?” „Бачыце, дзядзька, мы маем свой плакат і гэты хочам у вас павесіць”, — сказаў я. Шымчук скрывіўся, потым хацеў расказаць, якім гонарам для Шчытоў будзе тое, калі ўсе загаласуюць на Цімашэвіча і што будзе далей. У міжчасе на месцы Цімашэвіча павесілі мы плакат С. Лукашука і ўжо збіраліся далей... Але як дзядзька пабачыў, што замест улюбёнага яму Валодзі вісіць нехта іншы, ахапіла яго белая гарачка. „Раскажу аб вас Толіку! */. Яшчэ зробім з вамі парадак! О, знайшліся — Цімашэвіч ім не падабаецца! Я ж яго сам клеіў” — крычаў раз’юшаны шчытавец за намі. Пераконваць яго было лішнім („на вопрос дурака и сто умных не ответит”).

У касцёлах перад выбарамі штораз паўтаралі: „Католік павінен галасаваць на католіка”. Лозунг аднначасова так просты ды зразумелы, як дурны і недарэчны. А што, нібыта католікі збіраліся галасаваць на праваслаўных? Але такіх лозунгаў было мноства. Затое лозунг, так бы мовіць, у другі бок, што праваслаўны павінен галасаваць на праваслаўных, не прагучэў нідзе. Лозунга такога не было, мо і таму праваслаўныя не заўсёды галасавалі на праваслаўных. Для прыкладу, у Гайнаўскай гміне на 2009 важных галасоў 1287 атрымаў СЛД, 295 — беларускія кандыдаты, а 327 — усе астатнія чатырнаццаць камітэтаў, у тым ліку такія кветкі, як партыя „Х” (51 голас), „Самаабарона” (48), КПН (39) і г.д. Маем свабоду, народ сам выбірае. Самае сумнае, што ў Гайнаўскай гміне праваслаўныя складаюць амаль 100% насельніцтва. „Праваслаўныя! Не галасуйце на праваслаўных!” — гэты лозунг хіба быў бы больш адпаведны, калі паглядзець на вынікі выбараў. Падобная сітуацыя была і ў гарадах. Скажам, у Беластоку ў маім 52 участку на Яўгена Чыквіна — праваслаўнага кандыдата ў Сенат — прагаласавала 123 асобы, але на кандыдатаў у Сейм — толькі 22 асобы. Тэарэтычна на Выбарчы камітэт Беларускага саюза магло аддаць свае галасы столькі ж выбаршчыкаў, што і на Я. Чыквіна. Але не. На Чыквіна галасавала звыш 50 тысяч, а на Беларускі камітэт усяго 10 тысяч. „Лявіца” паставіла аднаго кандыдата ў Сенат. Чыквін ад праваслаўных быў таксама адзін, але галасаваць можна было на двух кандыдатаў. У выбарах у Сейм можна было галасаваць толькі на аднаго. Каго выбраў праваслаўны люд?

**ПРЫСУТНЫ**

---

*/ Толік — шматгадовы штатны супрацоўнік Службы бяспекі ў Бельску-Падляшскім. Зараз заслужаны песніянер і прадпрымальнік. Займаецца, між іншым, вытворчасцю розных выяваў рымскага папы.

# ЧАКАЕМ НАСТУПНЫХ ВЫБАРАЎ

☛ *Працяг са стар. 1*

спадары паслы ведаюць прынамсі, што на тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны жывуць беларусы.

Ёсць яшчэ адна партыя, якая мела шанц атрымаць шмат галасоў ад беларускага электарату. Тут менавіта вельмі добра ўспрымалася постаць нейкага Лепэра, лідэра „Самаабароны”. На вёсцы і ў горадзе людзі хвалілі яго за вельмі ясныя, простыя і разумныя выказванні. Лепэр сказаў аднак пару слоў, якія маглі не спадабацца тутэйшым выбаршчыкам, а менавіта палохаў польскае грамадства кашмарам вяртання камуністаў да ўлады. Хаця сам ён паказаўся як бальшавік, што магло падабацца, але пры тым страшыць камуністамі было ўжо крайняй памылкай. Нават рэвалюцыйна настроены авангард мясцовага грамадства зусім разгубіўся.

У наступных выбарах, на якія праўдападобна доўга чакаць не прыдзецца, Цімашэвіч можа мець сур’ёзнага канкурэнта. Менавіта ў „лепэраўцах”. Беларускія кандыдаты вялікіх шанцаў ніколі мець не будуць, бо з гэтага насельніцтва, якое ўмоўна называем беларусамі, у сапраўднасці хутчэй вырастаюць „праваслаўныя палякі” і ўсялякія фальклорныя групы, чым нацыянальна свядомыя беларусы. Але і беларусам трэба даць шанц, каб мелі яны магчымасць галасаваць на сваіх. Кандыдатаў, якія ўмеюць прайгрываць, на шчасце ў нас не бракуе.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# ГАДАВІНА ВЯРТАННЯ СВЯТЫХ МОШЧАЎ

22 верасня г.г. адзначалі мы першую гадавіну перанясення Мошчаў Святога Мучаніка Дзіцятка Гаўрыіла Заблудаўскага з Гродна ў Беласток. Гэты дзень быў у мінулым годзе ўстаноўлены царкоўнымі ўладамі як другая дата святкавання памяці Мучаніка Гаўрыіла. Першую адзначаем 3 мая (20.04 паводле старога стылю) — у дзень Яго смерці.

Урачыстасці пачаліся напярэдадні свята Усяночным дбаннем, падчас якога вакол царквы прайшоў Хрэсны ход. Трэба тут адзначыць, што група прыхаджан з Заблудава, галоўным чынам моладзі, прыйшла ў Беласток са сваімі святарамі, несучы з сабою ікону Мучаніка Гаўрыіла. Малітвы працягваліся ўсю ноч. Спачатку пры мошчах мучаніка служыўся акафіст у Яго гонар, а зараз пасля поўначы — акафіст пакойнікам, затым — Свяціцелю Мікалаю.

Усю ноч у прыхадской святліцы можна было напіцца гарбаты і падсілкавацца бутэрбродамі, падрыхтаванымі дзяўчатамі з епархіяльнага Брацтва праваслаўнай моладзі. Брацтва таксама арганізавала парадкавую службу.

Святочны дзень пачаўся Літургіяй а 5-тай гадзіне. Служылася яна галоўным чынам з думкай аб тых, хто ў гэты дзень раніцай мусіў ісці на працу, а таксама аб паломніках, якія ўсю ноч маліліся ў храме, каб у такі спосаб ушанаваць памяць Святога Гаўрыіла.

Галоўную літургію служылі пяць архірэяў: архіепіскап Гродзенскі і Ваўкавыскі Валянцін, архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава, епіскап Лодзінскі і Познаньскі Сымон, епіскап Вроцлаўскі і Шчэцінскі Іерэмія і епіскап Люблінскі і Холмскі Авель. Ва ўрачыстасцях удзельнічала звыш пяцідзесяці духоўных. Трымалі яны з вечара папярэдняга дня аж да Галоўнай Літургіі пастаянную варту пры Мошчах Мучаніка Гаўрыіла. Шматтысячная грамада вернікаў, якія прыехалі сюды і з іншых епархій, напоўніла царкву і наваколле. У час Літургіі праводзіўся збор грошай на рамонт храмаў у Гродзенска-Ваўкавыскай епархіі, у тым ліку і на вернутую нядаўна царкву св. св. Барыса і Глеба ў Гродне — архітэктурны помнік XI ст. У цяжкіх ва ўсіх адносінах умовах павінны мы дапамагаць сабе ўзаемна, тым больш таму, што ўсе мы належым да аднае беларускае нацыі.

Святкаванне першай гадавіны здарэння, так важнага для праваслаўных Беласточчыны і ўсяе Польшчы, закончылася Хрэсным ходам з Мошчамі Мучаніка Гаўрыіла вакол Сабора св. Мікалая. Прайшоў першы год з таго моманту, калі Ягоныя Мошчы вярнуліся на родную зямлю.

Святы Мучаніча Дзіцятка Гаўрыіле, малі Бога за нас грэшных, а асабліва за нашых дзяцей і моладзь!

**Тэкст і фота С. Н**





### СПРЭЧКА ЗА ЦАРКВУ

„Ніва” ў нумары 37 ад 12 жніўня г.г. памясціла фрагмент інтэрв’ю Міхася Белямука з епіскапам Наваградскім і Лідскім Канстанцінам, якое друкавалася ў беларускім часопісе „Полацак” (выходзіць ён у Кліўлендзе ў Злучаных Штатах Амерыкі).

У інтэрв’ю уладыка Канстанцін расказвае пра здзекі, якія чынілі над ім лідскія каталікі ў сувязі са спрэчкай за царкву св. Міхаіла Архангела (Архістратэга) у Лідзе. Са сказанага ўладыкам Канстанцінам немагчыма здагадацца, чаму гэта каталікі так зацята змагаюцца супраць вяртання царквы праваслаўным. Справа ў тым, што царква гэтая была пабудаваная ў 1797—1825 гадах як рымска-каталіцкі Іосіфаўскі касцёл ордэна піяраў. Каб было цікавей, на пабудову каталіцкага храма ахвяраваў 5000 рублёў расейскі імператар Павел І. Гэты цар з нянавісці да сваёй маці Кацярыны II рабіў усё наадварот. Паколькі Кацярына праводзіла, напрыклад, палітыку „абрусення” Беларусі, дык Павел II увёў палітыку „адрусення”, якая сапраўды накіраваная была супраць тутэйшай беларушчыны, ды на карысць пальшчызны і рымска-каталіцкай царквы (Павел І быў вялікім магістрам каталіцкага ордэна кавалераў мальтанскіх!). Толькі Мікалай І вярнуў расейскую палітыку ў „кацярынаўскае” русла. Дапамаглі гэтаму самыя палякі, узнімаючы Лістападаўскае паўстанне 1831—1832 гадоў. У 1832 г. і зачынены быў лідскі кляштар піяраў. Касцёл праіснаваў да наступнага, Студзеньскага паўстання 1863 года (у тым часе, у 1842 г. гарэў), калі быў перароблены на праваслаўную царкву Міхаіла Архангела.

Гэтым і тлумачыцца неміласэрнасць каталікаў у дачыненні да асобы ўладыкі Канстанціна ды нерашучасць кіраўніцтва горада.

Каму тады перадаць царкву, перарobленую з касцёла, пабудаванага на грошы цара-вар’ята?

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# ПАКРОЎ ПРАСВЯТОЙ БАГАМАЦІ



14 кастрычніка (1.10 паводле старога стылю) наша Царква адзначае вялікае свята — Пакроў Прасвятой Багародзіцы. Хаця і не адносіцца яно да ліку дванаццаці вялікіх свят, т. зв. двунадзесятых, аднак лічыцца адным з вялікіх святкаванняў у гонар Багародзіцы.

Яго гісторыя спалучана з падзеяй, якая здарылася ў пачатку X стагоддзя ў Канстанцінопалі. Грэчаская Візантыйская Імперыя апынулася тады пад пагрозай чарговага наезду сарацынаў (арабаў). Падчас аднаго з такіх наездаў насельніцтва сталіцы імперыі боязна занасіла свае малітвы Госпаду Богу і Прасвятой Дзеве Марыі. У часе Усяночнага дбання ва Улахернскай царкве, у якой захоўвалася рыза * Багамаці з амафорам ** і часткай пояса, разам з вернікамі прабываў святы Андрэй Юродзівы дзеля Хрыста са сваім вучнем Епіфаніем. Усе маліліся за выратаванне горада ад ворагаў. Нечакана, каля чацвёртай гадзіны ночы св. Андрэй пабачыў Прасвятую Дзеву, якая ў суправаджэнні анёлаў і святых ішла ў паветры ад галоўных уваходных дзвярэй у напрамку амвона ***. Падтрымоўвалі яе св. Іаан Хрысціцель і св. Іаан Багаслоў, а іншыя святыя ішлі перад і за Ёю ў белым адзенні, спяваючы духоўныя песні. Калі Багародзіца наблізілася да амвона, св. Андрэй спытаў Епіфанія: „Ці бачыш ты Пані і Царыцу свету?” „Бачу, айцец мой духоўны, і жах мяне ахінае” — адказаў той. У жыцці св. Андрэя паведамляецца, што Уладычыца стала на калені і доўга малілася, абліваючы слязамі свой прачысты твар. Потым падышла да Прастола і далей малілася за людзей, якія былі ў храме. Пасля малітвы Яна зняла з Сябе вялікі бліскучы шаль, які быў на Яе галаве і, трымаючы яго Сваімі рукамі, распасцерла над усім народам у храме. Св. Андрэй і Епіфаній доўга глядзелі на распасцёртае ў паветры пакрывала. Відаць яго было, пакуль у царкве знаходзілася Прасвятая Багародзіца, а знікла пасля Яе адыходу.

З’яўленне Прасвятой Багародзіцы з Яе каштоўным амафорам, якім пакрыла народ — таму і свята называецца **Пакроў** — Царква ўшаноўвае, як вялікае здарэнне. Адкрыла яно адну з вялікіх Гасподніх тайнаў — тайну апекі Багародзіцы за ўвесь свет перад Прастолам Усявышняга.

Трэба прыгадаць таксама, што гэтае свята мае выключна руска-славянскую традыцыю. Не ведае яго не толькі рымска-каталіцкі Захад, але і праваслаўны Усход, хаця там, у сталіцы Візантыі здарылася гэтая падзея. На Русі Пакроў Прасвятой Багародзіцы адзначалі ўжо ў дамангольскі перыяд.

---

* рыза — верхняе адзенне; у свяшчэннікаў верхняе літургічнае адзенне.

** амафор — паласа тканіны, шаль, у епіскапаў найважнейшая частка літургічнага адзення, якая адным канцом ляжыць на грудзях, другім — на спіне.

*** амвон — сярэдняя частка салеі, узвышэння перад іканастасам.

**С. Н.**

# ЦІ ЕВАНГЕЛЛЕ АД МАЦВЕЯ БЫЛО НАПІСАНА НА АРАМЕЙСКАЙ МОВЕ

У артыкуле „Яшчэ раз аб братах Хрыста” у 38 н-ры „Нівы” Браніслаў Кавэцкі сцвярджае, аналагічна, як каталіцкія і праваслаўныя тэолагі, што Евангелле ад Мацвея было напісанае на арамейскай мове, толькі што яно загінула, а яго грэцкі тэкст, гэта пазнейшы пераклад з арамейскай мовы. Аднак гэта толькі здагадкі, якія не маюць доказаў. Усе сінаптычныя Евангеллі часткова абапіраліся на вусна пераказаных пропаведзях Ісуса. Але яны напэўна былі перакладзены з арамейскай мовы на грэцкую. Евангелле ад Мацвея было напісана для яўрэяў у дыяспары, якія слаба ведалі арамейскую мову. Пры жыцці Ісуса і пасля яго распяцця грэцкая мова была галоўнай ва ўсёй Рымскай Імперыі. Нават у самым Рыме яе ўжывалі паўсюдна. Была яна вядомая ва ўсёй Палесціне, а тым больш у Галілеі, дзе жыў і вучыў Хрыстос. Нават ксёндз прафесар Э. Дамброўскі у адным эсэ паставіў пытанне: „Ці Ісус гаварыў па-грэцку?” І ён меркаваў, што ў размове з неяўрэямі Хрыстос ужываў грэцкую мову. А яўрэі ў дыяспары гаварылі толькі на грэцкай мове і арамейскай амаль не ведалі. І таму большасць вучоных спецыялістаў па Евангеллях не вераць, што Евангелле ад Мацвея, а нават „Пасланне яўрэям” былі напісаны на арамейскай мове. Пры тым Евангелле ад Марка, а не ад Мацвея было напісана першым, дзесьці ў 70 годзе. Аўтар Евангелля ад Мацвея карыстаўся Евангеллем ад Марка. З 678 сціхаў з Евангелля ад Марка аўтар Евангелля ад Мацвея выкарыстаў 600, а св. Марк, калі напісаў сваё Евангелле, нічога не ведаў аб Евангеллі ад Мацвея. Мова грэцкая ў Евангеллі ад Мацвея мае натуральную свабодную плаўнасць, якая не дазваляе думаць, што на такой мове мог бы напісаць перакладчык. Евангеллем ад Марка карыстаўся таксама аўтар Евангелля ад Лукі, але не ведаў ён Евангелля ад Мацвея. Амаль трэцяя частка Евангелля ад Лукі была спісана з Евангелля ад Марка. Толькі ў Евангеллях ад Мацвея і Лукі апісваюць нараджэнне Хырста, але па-рознаму. Згодна з Евангеллем ад Мацвея сям’я Ісуса жыла ў Віфліеме і там у доме нарадзіўся Хрыстос. Пасля нараджэння Хрыста Ягоная сям’я ўцякла ў Егіпет перад Ірадам, які загадаў забіць у Віфліеме ўсіх дзяцей да двух год. Калі памёр Ірад, Марыя з Язэпам і Хрыстом вярнуліся з Егіпта, але не ў Віфліем, а ў Назарэт у Галілею.

У Евангеллі ад Лукі Марыя і Язэп жылі ў Назарэце і пайшлі ў Віфліем з-за перапісу насельніцтва, і калі там былі, нарадзіўся Хрыстос не ў доме, а ў пячоры ў яслях. І нічога не напісана аб уцёках у Егіпет, і нічога не ўспамінаецца аб Ірадзе. Пасля нараджэння Хрыста Марыя з Язэпам і Хрыстом вярнуліся спакойна ў Назарэт, адкуль прыйшлі. Нараджэнне Хрыста першыя хрысіяне прадстаўлялі ў дзвюх версіях. Адны ўважалі, што Ісус — гэта патомак цара Давіда і як Месія Ён мог толькі нарадзіцца ў Віфліеме. Другая версія — што Ісус гэта сын Бога, які павінен быць народжаны дзевай. Нараджэнне ад дзевы з’яўляецца спрэчным з версіяй аб патомку з роду цара Давіда, бо ад Давіда паходзіў толькі Язэп. У Евангеллі ад Марка Ісус гэта сын Язэпа: „Ці ён не цясляр, сын Марыі, брат Якуба, Язэпа, Іуды і Сымона? (Мк 6:3). Евангелле ад Іаана ўспамінае (сціх 1:45): „Мы знайшлі Таго, аб Каторым пісалі Майсей у законе і пракокі, Ісуса, сына Язэпа з Назарэту”. І сціх 6:42: „Ці гэта не Ісус, сын Язэпа, Каторага матку і айца мы знаем?” Толькі ў Евангеллях ад Мацвея і Лукі гаворыцца аб нараджэнні Хрыста дзевай. У сірыйскім старым Евангеллі ад Мацвея пішацца: „Якуб нарадзіў Язэпа, а Язэп заручаны Марыяй нарадзіў Ісуса, названага Хрыстом”. У Евангеллі ад Лукі пішацца аб нараджэнні Хрыста ад дзевы (1:26; 21—20), у Мацвея таксама, але ў іншы спосаб, аднак там не пішацца, што Марыя маці Ісуса была далей дзевай і пасля нараджэння Хрыста, і што не мела дзяцей, братоў Хрыста.

Браніслаў Кавэцкі закідае мне, што я не падаў сціха 13:53-57 з Евангелля ад Мацвея. Я не падаў яго ў артыкуле „Аб Апостальскім Саборы ў Ерусаліме ў 51 г.” Там я прадставіў імёны братоў Хрыста. У зносцы ў рускім перакладзе напісана, што „словамі браты і сёстры часта абазначалі дваюрадных братоў і сясцёр”, але гэта не тое самае, што ў Бібліі Тысячагоддзя. Часта свяшчэннік у царкве ўсіх прысутных прыхаджан называе братамі і сёстрамі, але гэта не азначае, што яны ўсе сапраўдныя яго браты і сёстры. Ды ў Евангеллі браты Ісуса падаюцца заўжды з яго маткай.

Гэта не Маскоўская Патрыярхія даказвае, што браты Хрыста могуць быць Яго дваюраднымі братамі, а толькі той, хто пісаў гэту зноску. Я ў Бібліі Тысячагоддзя не абвінавачваў за зноску кардынала Вышынскага, які напісаў уступ да яе, а толькі тых, якія напісалі гэтую зноску. Не ведаю, ці Выдавецтва „Жизнь с Богом” у Брусеяле верагоднае для праваслаўных.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

# ЗЛЁТ КРАЯЗНАЎЦАЎ

Напрыканцы жніўня г.г. у Белавежы праходзіў XII Цэнтральны злёт краязнаўцаў „CZAK'93". У ім прыняло ўдзел каля 190 чалавек, у асноўным дэлегаты ПТТКоўскіх аддзяленняў з усяе Польшчы.

Галоўнай тэмай пленарнага пасяджэння былі запаведныя трансгранічныя абшары. На ім былі зачытаны тры даклады. Доктар Чэслаў Аколаў пазнаёміў прысутных з тымі ж абшарамі ў свеце — гісторыяй іх узнікнення ды сённяшнім станам. Першы запаведны аб'ект узнік у 1932 г. па абодвух баках дзяржаўнай граніцы Злучаных Штатаў Амерыкі з Канадай. Былі гэта нацыянальныя паркі Чатэртан Лайк і Гляч'ер, для якіх сёння абавязвае супольнае названне Міжнацыянальны парк міру. Першым у Еўропе трансгранічным запаведным аб'ектам стаў парк у Пянінах, які ўтварыўся па абодвух баках граніцы Польшчы са Славакіяй. Наогул Еўропа, таму што яна так густа пасечана дзяржаўнымі граніцамі, мае найбольш трансгранічных абшараў. Граніцай таксама падзелена Белавежская пушча. На польскім баку знаходзіцца Белавежскі нацыянальны парк, на беларускім жа, ад нядаўна, Дзяржаўны нацыянальны парк „Белавежская пушча". Статус Сусветнага аб'екта спадчыны чалавецтва БНП атрымаў ужо ў 1979 г. А, вось, напрыканцы мінулага года, той жа статус пашырылі і на беларускую частку пушчы, якая падлягае дакладнай ахове (4500 га). Гэтак узнік першы ў Еўропе трансгранічны абшар сусветнай спадчыны.

Ч. Аколаў прачытаў яшчэ адзін даклад, на тэму прыродазнаўчых і культурных вартасцяў Белавежскай пушчы ды праблемаў іх аховы. Прыемна адзначыць, што не прамаўчаліся дакладчыкам шматлікія аб'екты, звязаныя з пашыраным на гэтай тэрыторыі праваслаўем.

Трэці даклад, прачытаны магістрам Кшыштафам Вольфрамам, датычыў праектаванай сістэмы трансгранічных запаведных абшараў на паўночнаўсходняй граніцы Польшчы. Пры нагодзе шмат гаварылася таксама пра канцэпцыю „Зялёных лёгкіх Польшчы". Ідэя ЗЛП у гэтым годзе расшырылася на тэрыторыі Тарунскага, Цеханоўскага і частку Сядлецкага ваяводстваў, дасягаючы зараз 51,5 тысячы квадратных км. Дакладчык паінфармаваў таксама, што робіцца намаганні на тое, каб канцэпцыю „Зялёных лёгкіх Польшчы" пашырыць па-за межы Польшчы, на поўнач і ўсход, ствараючы гэтым самым „Зялёныя лёгкія Еўропы". У палове кастрычніка г.г. у Ніжнім Ноўгарадзе маюць сустрэцца адпаведныя міністры сямі дзяржаў (Польшчы, Беларусі, Літвы, Расеі, Эстоніі, Латвіі і Украіны) зацікаўленых гэтай ідэяй.

Да справы „Зялёных лёгкіх Польшчы" часта вярталіся дэлегаты падчас дыскусіі, якая наладзілася пасля дакладаў. Усё ж найбольш часу ў дыскусіі адвялося праблемам Белавежскай пушчы.

Удзельнікам сустрэчы марылася, каб у найбліжэйшыя гады давесці да такой сітуацыі, што кожны турыст, ці то з Беларусі, ці з Польшчы, мог без ніякіх перашкод і абмежаванняў наведаць абедзве часткі пушчы. „Трэба, — гаварылі, — стварыць супольныя турысцкія шляхі". Славамір Галіцкі з Беластока прапанаваў апрацаваць і выдаць супольную польска-беларускую турысцкую карту ўсяе Белавежскае пушчы. Некаторыя слухалі гэтага і, пасмейваючыся ў вусы, трактавалі пачутае як нейкую фантастыку. Сумненні, дарэчы, паяўляліся і ў выказваннях самых вядучых дыскусію, але ніхто не асправаў самую, напэўна высокародную ідэю. „Выпрацаваная мадэль турысцкіх зносін у Белавежскай пушчы, — сцвярджалася ў падсумаванні, — магла б паслужыць прыкладам і адначасова штуршком для іншых трансгранічных абшараў".

У дыскусіі закранался таксама справа наладжання больш дакладных навуковых кантактаў вучонымі, якія працуюць у пушчы па абодвух баках граніцы. На жаль, гэтыя кантакты ўсё яшчэ недастатковыя, напаміна ючы даўнейшыя часы. Хаця і ёсць ластаўкі новага — вось, нядаўна ўдалося арганізаваць супольныя назіранні за забруджаннямі паветра. У сваю чаргу, на перашкодзе некаторым супольным даследаванням стаяць мерытарычныя хібы, напрыклад — розная класіфікацыя лясных фармацый у польскай і беларускай (савецкай) навуках.

Удзельнікаў канферэнцыі цікавіла таксама, што робіцца ў справе зубрагадоўлі. Ці вырашана ўжо, да якога лікавага ўзроўню трэба панізіць статак зуброў на польскім баку? На жаль, на гэтае пытанне ніхто не мог канкрэтна адказаць. Адказу не ўдалося знайсці і на пытанне, як пасадзейнічае пабудова вадасховішча „Семяноўка" на ўзровень вады ў глебе, і як гэта паўплывае на стан Белавежскай пушчы. У гэтым выпадку нічога не можна зрабіць, як толькі назіраць за зменамі.

Далей дыскутавалася аб справе пашырэння межаў Белавежскага нацыянальнага парку, пабудове дыдактычнага цэнтра ў Белавежы. Нехта дамагаўся, каб галоўнай вуліцы мястэчка вярнуць даўнейшую назву Стачок (зараз ёй патрануе ген. Аляксандр Вашкевіч). Закраналіся часта і праблемы, якія датычаць іншых рэгіёнаў Польшчы.

Падчас злёту адбыліся краёвыя нарады актыву па краязнаўстве і ахове прыроды. Іх галоўнай мэтай было падабраць новыя склады камісіяў на наступныя гады. Свае справы абмяркоўваў таксама капітул адзнакаў.

Удзельнікі злёту шмат часу адвялі на азнаямленне з белавежскімі нетрамі. Былі экскурсіі ў нацыянальны парк, у паказны зубрагадавальнік і прыродазнаўчы музей. Дэлегаты ўдзельнічалі ў турысцкім кастры, на якім, між іншым, — паслухалі ігру на паляўнічых рогах у выкананні Вінцука Няробы і Віктара Вашкевіча. Паглядзелі яны таксама прыродазнаўчы фільм, зроблены ў Белавежы ў палове васьмідзесятых гадоў англічанамі Т. і Л. Бамфордамі. Наканец госці прынялі ўдзел у святой імшы, якая служылася ў Палацовым парку.

Мілым момантам падчас сустрэчы краязнаўцаў было ўручэнне д-ру Чэславу Аколаву акта паклікання яго на пасаду дырэктара Белавежскага нацыянальнага парку (дагэтуль Ч. Аколаў толькі выконваў абавязкі дырэктара). Падчас цырымоніі зала спявала яму „Sto lat" і горача апладзіравала. Ян Шышко, дырэктар Краёвага праўлення нацыянальных паркаў, які ўручыў намінацыю, сказаў жартоўна, але праўдзіва, што сімвалам БНП з'яўляецца сёння не толькі адзін зубр, але і... Чэслаў Аколаў.

**ПЁТР БАЙКО**

# БЕЛАРУСКІЯ ШКОЛЫ Ў ВІЛЬНІ

Пасля амаль паўвяковага перапынку ў Вільні зноў пачалі працаваць беларускія школы. Нагадаем, што апошнія беларускія школы працавалі ў Вільні да паловы 1944 года. Былі гэта Беларуская гімназія і Настаўніцкая семінарыя пад нямецкай акупацыяй. У перыяд СССР у Вільні не было ніякіх беларускіх школаў ці нават класаў.

Апошнія тры гады актывісты беларускіх суполак у Вільні намагаліся сабраць подпісы бацькоў, якія падтрымалі б ідэю адкрыцця беларускага класа. Удалося ў мінулым годзе. Назбіралася пяць заяваў, потым дайшлі яшчэ чатыры. Адкрыўся першы беларускі клас пры 13-тай расейскай школе ў Вільні. Настаўніцай у ім працуе Галіна Сівалава. Гэты поспех даў віленскім беларусам надзею на стварэнне ўласнай сярэдняй школы. Надзею гэтую падтрымаў яшчэ факт, што ў 1991 годзе пры Віленскім педагагічным інстытуце (цяпер — універсітэце) адкрылася беларускае аддзяленне. Загадчыцай аддзялення з'яўляецца Лілея Плыгаўка. У аддзяленні 12 месцаў (сёлета было 19 заяваў, так што праводзіўся конкурс). Віленскія беларусы аднавілі Таварыства беларускай школы ў Вільні і ад яго імя сталі прабіваць у літоўскіх асветных уладаў ідэю беларускай гімназіі. Адначасова праводзіўся збор подпісаў пад заявамі ў беларускую гімназію. Назбіралася звыш 100 заяваў. Не набіралі 12-тага класа, мяркуючы, што вучням патрэбны прынамсі трохгадовы перыяд, каб адаптавацца ў новай школе. Адкрыліся 5—11 класы. Пакуль што, школа не называецца гімназіяй, бо ў сістэме дзяржаўнай адукацыі Літвы гімназійнымі класамі могуць называцца толькі тыя, што з 9-тага і вышэй. Школа называцца сярэдняй гуманітарнай. У арганізацыйным сэнсе школе яшчэ шмат чаго не хапае. Няма асобнага памяшкання — беларуская школа „падчэпленая" да расейскай. Таксама няма свайго дырэктара. Літоўскія асветныя ўлады далі беларусам згоду адно на свайго завуча (загадчыка навучальнай часткі) — стала ім Лілея Плыгаўка. Дзеці ў беларускія класы абраліся з расейскіх школаў — ніхто з іх пакуль што не размаўляе па-беларуску. Але нейкі станоўчы зрух у бок беларускай адукацыі пачаўся. Настаўнікі ў школе — мясцовыя, якія раней працавалі ў расейскіх школах. Па-беларуску ў школах выкладаюцца замежныя мовы (французская, англійская), матэматыка, гісторыя, латынь, маляванне і, натуральна, беларуская мова. Іншыя прадметы выкладаюцца па-расейску настаўнікамі расейскай школы. У школе вучні вывучаюць яшчэ дзяржаўную — літоўскую — мову; няма расейскай мовы. Навучанне ідзе па літоўскіх навучальных праграмах. На адкрыцці навучальнага года ў беларускай школе ў Вільні прысутнічалі міністры замежных спраў і народнай адукацыі Рэспублікі Беларусь. Школа атрымала ў падарунку ад беларускага ўрада камп'ютэр.

Толькі на пачатак. Натуральна, міне яшчэ шмат часу, пакуль беларуская школа ў Вільні стане сапраўды беларускай, не толькі з назвы. Мабыць, варта нагадаць, што паводле перапісу 1989 г. у Літве пражывае 63 тысячы беларусаў (у тым — 30 тысяч у Вільні). Раней іхнія дзеці вучыліся наогул у расейск школах. Развал СССР і закрыванне некаторых расейскіх школаў у Літве сталі прычынай таго, што віленскія беларусы пачалі прыхільней глядзець на адукацыю ў беларускай мове. Выпадае спадзявацца, што сёлетні навучальны год стане добрым зачаткам адбудовы беларускай школы ў Вільні і ў Віленскім краі.

**(ямакс)**

# ЗВЯЗ — НОВАЕ ТХНЕННЕ

☛ *Працяг са стар. 1*

Паволі я пачаў ужо гэта рабіць і здаецца мне, што з неблагім вынікам. ЗБМ можа стаць энергічнай арганізацыяй, калі прытрымлівацца гэтай беларускай сярэдзіны - не будзе ў ёй якойсьці суперэлітарнасці, але не будзе і агульнадаступнасці. Гэты выпрабавальны перыяд, які дагэтуль абавязваў у ЗБМ, на маю думку, трэба ўтрымаць і надалей, бо гэта добрая верыфікацыя асобы. Сябрам ЗБМ, па-мойму, павінен з'яўляцца той, хто мае нейкія думкі і праект іх рэалізацыі. Сябар для самога сяброўства ў арганізацыі, пасіўны - гэта не сябар, ён кансумент, а такіх жа цэлы свет. Для іх ёсць у ЗБМ статус сімпатыка - калі ласка, прыглядайся, плаці складчыны і ўсё.

*- Здаецца мне, што на такім жа грунце ЗБМ стаяў і раней?*

- Не пярэчу, але ёсць справы, якія трэба павесці ад пачатку. Адбыўся Кангрэс, а ніводная газета не атрымала ад нас паведамлення пра гэту падзею. Не маем нават свайго фірменнага бланка. Ну, на жаль, але трэба падумаць пра асобу-дзве, якія павядуць у ЗБМ канцылярска-фармальныя справы. Спатрэбілася б для Звяза газетка - хай раз у квартал - але хай жа вісіць яна ў ліцэях, каб ліцэісты мелі пра нас нейкую інфармацыю, бо ў будучыні можа нехта захоча адтуль прыйсці ў Звяз. Прапаганда такая патрэбная для Звяза, бо яна выводзіць арганізацыю з сакрэтнасці ды засцерагае ад выдумак на ейны конт. Ну і наканец варта падумаць пра нешта такое, што людзям асацыявалася б з ЗБМ. Можа гэта быць нейкая імпрэза - ад пачатку да канца зробленая звязаўцамі. Асабіста я думаў пра тое, што ў свой час звалася "Нараўскай восенню" ці "Бардаўскай восенню". Студэнты з БАСа адказаліся брацб на "Басовішча" салістаў, а думка пра асобную для аўтарскай песні імпрэзу — някепская. Тут мог бы Звяз паказацца - наладзіць як след фестываль, хаця б у Бельску. Ці абавязкова трэба пхацца ў гміны? Звяз - маладзёжная арганізацыя, а моладзь жа ў гарадах.

*- Дзякую за размову і жадаю вытрымкі.*

**Гутарыў Алесь Максімюк**

# ВЕЧАРЫНА Ў КЛУБЕ БГКТ

У апошнюю нядзелю верасня бягучага года (26. IX) у клубе БГКТ па вуліцы Варшаўскай у Беластоку адбылася вечарына для ўшанавання 90 гадавіны з дня нараджэння выдатнай эміграцыйнай паэтэсы Наталлі Арсенневай.

Пра складаны і нялёгкі жыццёвы шлях ды творчы дасягненні пісьменніцы вельмі цікава расказаў прафесар Аляксандр Баршчэўскі, кіраўнік Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Дакладчык — што варта адзначыць — напісаў, між іншым, вялікі змястоўны артыкул у польскі шырокавядомы часопіс „Літаратура на свеце", прысвечаны Наталлі Арсенневай. У ім літаратуразнаўца і вядомы паэт прыводзіць лепшыя вершы паэтэсы, якія сам пераклаў на польскую мову.

Затым адбылася мастацкая частка. Выступіў беластоцкі мешаны хор БГКТ, якім кіруе таленавіты гарадзенскі музыка Віктар Маланчык. Са сцэны ліліся самыя прыгожыя задушэўныя беларускія песні. Найбольш кранаючыя сэрца вершы Арсенневай чыталі вядучая канцэрты Валянціна Ласкевіч і Галіна Карбоўская. У гэты раз спяваў то ўвесь хор, то жаночая група, то мужчынская. Сола праспявалі свае любімыя песні Люба Гаўрылюк, Галіна Карбоўская і Юры Налівайка, а таксама Люба Гаўрылюк і Уладзімір Іванюк.

Незабыўная гэта вечарына...

**ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**

# БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ-ВІЛЕНЧУКОМ

### ЖРАЦЫ БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЫ

Дом спадарства Галіны і Лявона Луцкевічаў быў першым, які я наведаў у Вільні. Як жа ж магло быць інакш! Здавалася, што вось яшчэ так нядаўна мы развіталіся, перарвалі займальныя тэмы, каб неўзабаве іх працягнуць. А тым часам ніколі не бачыліся... Гэтае шматкроп'е павінна чытача крыху насцярожыць. Так, са спадаром Лявонам я быў толькі знаёмы, дзякуючы „Вандроўкам па Вільні" ці ягоным артыкулам аб ім. Якое ж поруч з радасцю было маё здзіўленне, калі аказалася, што Галіна вучылася ў тых жа самых класах, што і я. Прыпамінаецца мне зараз ціхая, паслухмяная дзяўчына, ветлівая, надзвычай маральная, з найлепшымі ацэнкамі, словам, прыклад для нас усіх. Спадарыня Галіна Луцкевіч — гэта дачка вядомай дзеячкі беларускай культуры, дзіцячай пісьменніцы, Зоські Верас (Людвікі Войцік) і Антона Войціка, былога рэдактара і выдаўцы „Сялянскай праўды". Зараз спадарыня Войцік-Луцкевіч — кандыдат філалагічных навук, германістка, дацэнт Віленскага педагагічнага універсітэта. Працу ў ім спалучае яна з багатай публіцыстычнай дзейнасцю, шмат піша аб тых месцах у Літве, якія звязаныя з культурнай мінуўшчынай беларусаў, з дзейнасцю выдатных прадстаўнікоў роднай нацы. У падарку я атрымаў кніжку Чэслава Кудабы „Па Віліі" ў перакладзе Галіны Войцік з літоўскай на беларускую мову, выдадзеную ў мінулым годзе ў Менску. Маем тут апісанне гэтай воднай артэрыі, спалучаючай Літву і Беларусь, апісанне ўсяго, што знаходзіцца паабапал яе берагоў, а што павінна зацікавіць дапытлівага краязнаўцу.

Шпарка міналі гадзіны. А яшчэ чакалі на мяне альбомы з фатаграфіямі, вяртаючымі школьны час. З увагай углядаўся ў памятныя здымкі, распазнаваў знаёмыя твары, называў прозвішчы. Спадарства Луцкевічы захоўваюць фатаграфіі акуратна ўклееныя, храналагічна размешчаныя ды з растлумачальнымі побач тэкстамі.

Шчаміла сэрца, што ўсё гэта ўжо гісторыя. Праўда, быў ваенны, акупацыйны час, пераважала аднак маладосць, пераважалі характэрныя для гэтай цудоўнай пары чалавечага жыцця бадзёрасць і аптымізм. Аглядаў я таксама фатаграфіі ў іншым альбоме, менавіта, прысвечаным даваеннай Беларускай віленскай гімназіі. Яе 75-годдзе будзе святкавацца ў лютым 1994 года.

У размове (пры смачным пачастунку) хвалявалі мяне асабліва сучаснасць і бліжэйшая будучыня. Усе аж тры пабыўкі ў гэтым патрыятычным доме ўнеслі ў мае веды многае і каштоўнае. Закраналіся штораз новыя справы. Пераважна размова датычыла беларускага школьніцтва. Даведаўся я, што ўжо з 1 верасня, упершыню пасля вайны, адчыняе дзверы Беларуская гімназія ў жывапісным раёне горада, Звярынцы, непадалёку ад караімскай святыні, кенесы. Гімназія атрымала памяшканне ў будынку XVII Рассейскай сярэдняй школы, які можа з цягам часу стане ўласнасцю беларусаў. Набор у гімназію правялі навуковыя працаўнікі Кафедры беларускай літаратуры і мовы Віленскага педагагічнага універсітэта. Яны атрымалі ад бацькоў 200 заявак.У гэтым годзе таксама пачне працу беларусістыка Віленскага педагагічнага універсітэта з пяцігадовай праграмай заняткаў.

Спадар Лявон моцна падкрэсліваў ролю Беларускага таварыства культуры, раіў, каб я сустрэўся з яго старшынёю, спадаром Хведарам Нюнькам. Я абяцаў, што абавязкова яго наведаю, тым больш, што захацелася б мне мець як мага паўнейшы матэрыял для „Нівы", з якой хачу абнавіць сувязь — з маім колішнім месцам працы на пераломе 50-ых і 60-ых гадоў.

У час размовы я міжвольна кідаў позірк на абсталяванне пакоя, дзе так цікава і плённа мінаў час. Выразна адчувалася: гэтае абсталяванне толькі ўмоўна было пасіўным; проста ідэальна дапаўняла настрой сустрэчы, робячы яе нават узнёслым, а тым больш, як зараз усведамляю, для мяне памятным. Побач з бібліятэкай, на пачэсным месцы — бюст стваральніка беларускага музея ў Вільні Івана Луцкевіча, дзядзькі спадара Лявона. Бюст выканаў вядомы ў Літве скульптар Раполас Яхімавічус. Каштоўным, маючым гістарычную вартасць з'яўляецца алейны партрэт Антона Луцкевіча, бацькі майго субяседніка. Партрэт паўстаў у майстэрні Пятра Сергіевіча ў 1934 годзе. Агульнавядомая роля Антона Луцкевіча як літаратурнага крытыка, адраджэнскага дзеяча. У 1919—1920 гадах А. Луцкевіч быў прэм'ерам і міністрам замежных спраў Беларускай Народнай Рэспублікі. Кідаецца ў вочы партрэт невядомага продка Зоські Верас, датаваны XVIII стагоддзем. Тут таксама партрэт Яе Сына.

На гэтым сямейным астраўку віленскай беларушчыны чакала мяне неспадзяванка. Спадар Луцкевіч запрапанаваў, каб я адказаў на колькі запытанняў з выпадку першай пасля вайны пабыўкі ў родным горадзе і такім чынам падзяліўся са слухачамі-беларусамі мясцовага радыёвяшчання ўспамінамі аб даўняй Вільні і ўражаннямі з сустрэчы з сённяшняй. Мы перайшлі ў рабочы кабінет, дзе знаходзіцца адпаведная тэхніка, такая малая радыёстудыя. Прыпомніліся мне ўжо 35-гадовай даўнасці падзеі, калі ў беластоцкім радыёвяшчанні рабіў я перадачы на беларускай мове. Мацней забілася сэрца... Пасля запісання на стужку гэтага кароткага інтэрв'ю, у нас пайшла размова наогул пра радыёвыя справы. У беларускай рэдакцыі віленскага радыё апаратарам працуе Галіна Велькішэне, вельмі адданая сваёй прафесіі, заўсёды надзейная дапаможніца спадара Лявона; дыктарамі працуюць студэнткі Беларускага аддзялення Факультэта славістыкі Віленскага педагагічнага універсітэта Іна Бэйнар, Наталля Савіцкая і Святлана Урлік. Меў я аказію праслухаць чарговую радыёперадачу, падрыхтаваную спадаром Луцкевічам, у якой выступае вядомы ў Літве беларускі спявак Лявон Мурашка, зараз кіраўнік 23-асабовага хору ў царкве Св. Духа. Тут, дарэчы, працягваюцца традыцыі даваеннага хору ў Прачысценскім саборы, створанага Рыгорам Шырмам. Інтэрв'ю спадара Лявона са спеваком, яго песні (між іншым „Сваток"), роздумы над далейшымі шляхамі культурнага жыцця беларусаў у Вільні — усё гэта было прысвечана дню нараджэння Мурашкі (27 жніўня), якому пайшоў 70 год.

Неадночы Луцкевіч адзначаў, што праз мастацтва ва ўсялякіх яго праявах трэба адраджаць беларускае жыццё, так жудасна здэградаванае ў Вільні на працягу мінулых 50-ці гадоў.

Я дасканала ўсведамляў, як незвычайна шчодра абдараваў мяне добры лёс: я мог сустрэцца з Галінай і Лявонам Луцкевічамі, размаўляць з імі аб актуальных, злабадзённых справах віленскай беларушчыны, якую яны самыя так высакародна ўвасабляюць, якой самааддана служаць нягледзячы на пенсіянерскія гады. Вытокі ж шматлікіх самых каштоўных пачынанняў бяруцца з гэтага дома, дзе жывуць патомкі двух радаслоўяў, якімі ганарыцца беларускі народ.

Такім чынам пасля доўгага перапынку прадоўжыў я вандроўку, распачатую ў мой „ніўскі" час, праз дамы патомкаў Францішка Багушэвіча, Адама Гурыновіча, швагра Янкі Купалы, брата Цёці Уладзі, Вінцука Станкевіча. Яны ж, гэтыя дамы, і надалей, у маім уяўленні, былі гістарычнымі, як зараз такім жа самым з'яўляецца дом спадарства Галіны і Лявона Луцкевічаў.

Расстаючыся з імі, гаворачы „да пабачэння", меў я на думцы люты 1994 года, калі будуць адзначацца 75-я ўгодкі Беларускай віленскай гімназіі, на святкаванне якіх планую прыехаць. Галоўнае цяпер мае жаданне: яшчэ не раз быць у гэтым доме, бачыць яго гаспадароў гэтакімі ж жыццядзейнымі, прадстаўляючымі сабою крыніцу невычэрпнага аптымізму, так патрэбнага беларусам у Вільні ў наш складаны час.

*(Працяг будзе)*

**МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ**

# ТАЯМНІЦЫ, ТАЯМНІЦЫ...

Калі я чытала ў трох чарговых нумарах "Нівы" (34, 35, 36) артыкулы Пятра Байко аб "Таямніцах Белавежы", я зайздросціла шматгадоваму карэспандэнту нашага тыднёвіка, што ёсць у яго час раскрываць таямніцы родных мясцін.

Я таксама хацела, ужо ў дзяцінстве, даведацца, чаму Семяноўка называецца "Семяноўкай"? Чаму на "Конскай грэблі" страшыць? Што зрабілі з будынкамі панскага двара, калі перастала існаваць паншчына?.. Ніколі не ўдалося мне пра гэта і шмат чаго іншага даведацца. Але мара выясніць усе гэтыя справы ў мяне засталася.

"Конскай грэбляй" называлі адрэзак дарогі кіламетр за Тарнопалем. Тая дарога, цяпер асфальтаваная, даўней была, як усе вясковыя дарогі, не найлепшая, уся ў выбоінах. Той яе адрэзак вядзе ў напрамку Ляўкова. Аднойчы, перад другой сусветнай вайной, ішла па гэтай грэблі моладзь. У гэтым гурце была і мая бабуля. Невядома адкуль, нешта пачало на іх сыпаць конскім гноем. Усе адчулі сябе няёмка. Адзін хлопец пачаў лаяцца, тады сыпанула яшчэ больш. Маладыя перайшлі непрыемны адрэзак дарогі, і ўсё прапала. Пытала я ў бабулі, ці таму гэты адрэзак так назвалі, але яна не ведала. Ведала адно -- там увечары чалавека можа нешта палохаць.

Ёсць яшчэ другое таямнічае месца. Гэта "Буяўка". Знаходзіцца яна ў лесе, што цягнецца каля дарогі, якая вядзе ў Медзвядзі (Семенякоўшчыну) і Баравыя. Раз мне ўдалося трапіць туды, збіраючы зялёнкі. У тым месцы былі пастаўлены баракі адной з фірм, якая будавала Семяноўскае вадасховішча. Старэйшыя людзі казалі, што ў тым месцы нейкі яўрэй трымаў карчму. Не ведаю, ці яна была потым закрытая, ці спаленая, невядома чаму. Там, кажуць, таксама страшыла. Вось адзін старэча з Семяноўкі пытаўся ў стаража ў той фірме, ці не баіцца там спаць ноччу. Мужчына сказаў, што не баіцца, і пачаў дапытвацца, чаму яго пра гэта пытаюць. Семяновец расказаў, як незадоўга да вайны ішоў ён тудою вечарам. Невядома адкуль з'явіўся побач чалавек, які быў жывым полымем. Ішоў і гарэў! Валасы семяноўцу сталі дыбам, але стараўся ісці спакойна, не глядзець на прывід. Калі дайшлі да "Буяўкі", чалавек-полымя павярнуў туды. З той пары семяновец баяўся нават наблізіцца да таго месца.

Семяноўскія могілкі знаходзяцца на месцы старэйшых. Калі пачалі гарадзіць месца пад новыя (было гэта ў канцы пяцідзесятых гадоў), выкопвалі кавалкі... штучных зубоў і штучных валасоў. Цікава, што былі гэта за могілкі. Селянін жа такіх рэчаў не насіў!

Так, ёсць месцы, у якіх шмат сваіх таямніц. Можа, хто з чытачоў ведае пра гэтыя месцы, пра якія ўспомніла я, ці іншыя -- няхай напіша ў "Ніву". Думаю, што ўсім было б цікава даведацца.

**АЎРОРА**




### ЧАСТКА XIV

# ВАЙСКОВЫ САЮЗ БЕЛАРУСІ З РАСІЯЙ

Сёння прагну прывесці выказванне на тэму вайсковага саюза Беларусі з Расіяй маладога, прыблізна семнаццацігадовага чалавека, які не хацеў мне сказаць, у якім горадзе ён жыве, колькі яму гадоў і чым займаецца. На маё сцвярджэнне, што ён, мабыць, вучань або студэнт, адказаў: „Думайце, як сабе хочаце". Выказванні яго значна адрозніваюцца ад усіх іншых. Калі б мы хацелі на падставе таго, што сказаў гэты чалавек, акрэсліць яго погляды, дык можна было б прыпісаць яму нігілістычныя, а нават бунтараска-анархістычныя схільнасці. Думаю, што ў Беларусі, мабыць, пакуль што, многа такіх людзей, якіх погляды падобныя да ягоных. Не ведаю, аднак, ці кірунак яго мыслення не з'яўляецца „перспектыўным" і ці з цягам часу не будуць павялічвацца рады людзей з такім жа радыкалізмам у палітычных поглядах.

Вось выказванне гэтага маладога чалавека.

„Цікавіць вас беларуска-рускі вайсковы саюз і думаеце, што моладзь не вельмі цікавіцца гэтай праблемай? А хто ж можа болей цікавіцца такой справай, як не моладзь? То ж вядома, што ў армію бяруць не пенсіянераў, а толькі маладых людзей. На жаль, такая перспектыва чакае і мяне таксама. Скажу вам прама — я не прагну быць абаронцам айчыны ані той, якая называецца Савецкі Саюз, ані той, якая называецца Рэспубліка Беларусь. Уся гэта гульня ў інтэрнацыяналізмы ці патрыятызмы мяне не цікавіць. Мы страшэнна адсталі ад перадавых заходніх краін, якія інтэгруюцца, выкінуўшы на сметнік усялякія патрыятызмы, рэлігіі і традыцыі. Трэба вылазіць з патрыятычных і рэгіянальных запечкаў і смела ісці ў еўрапейскі ці ўсясветны дом. Вы, мабыць, памятаеце апошнюю вайну і зараз, мабыць, ахнеце пасля таго, што я скажу. Па-мойму, трэба шкадаваць, што Германія прайграла вайну. Калі б не прайграла, Польшча, Беларусь і Украіна не бултыхаліся б сёння ў патрыятычным гаўне і бядзе, а толькі жылі б на высокім матэрыяльным узроўні. Верце, што мне надаела да рвотаў слухаць аб гераізме беларусаў у час вайны, аб сямістах тысячах партызанаў, аб кожным чацвертым загінуўшым і аб іншых млосных здарэннях, якія не пхаюць Беларусь наперад, а толькі цягнуць яе назад. Мяне цягне на ваніты, калі слухаю сённяшніх беларускіх палітыкаў і тых, якія перафарбаваліся з камуністаў у лібералы, і тых, якія невядома чаму прэтэндуюць на нацыянальных важакоў. Каго маю на думцы? Маю на думцы Кебічаў і Краўчанкаў, Чыкінаў і таксама Пазнякоў. Тое, што яны гавораць, гэта пустая балбатня, якая загане Беларусь усё глыбей у пастку. Народ гэта разумее і ўсімі імі пагарджае. Ці вы ведаеце, што ўсе палітычныя арыентацыі, пачынаючы з камуністычнай партыі і канчаючы на Беларускім народным фронце можна пасадзіць на адным услоне і яшчэ астанецца многа парожняга месца? Так ёсць сёння, і так будзе заўтра.

Ніякія ваенныя саюзы ні з Расіяй, ні з нікім іншым Беларусі непатрэбныя і шкодныя. А калі ўжо звязвацца з некім мілітарна, дык з тымі, якія дыктуюць сёння свету тэхналагічныя і этычныя законы. Тое, што ў вас у Польшчы дзеецца з каталіцызмам, з хрысціянскімі каштоўнасцямі, з маленнем у адрас мёртвага, напаўняе мяне гідкасцю. Ваша краіна таксама ідзе ў тупік, так як і мы, хаця наша балбатня мае іншы характар, чым у вас. Паўтару яшчэ раз: я супраць камуністычнага ваеннага саюза Беларусі з Расіяй і супраць Пазнякоўскага Балтыйска-чарнаморскага саюза. Усё гэта „чепуха на постном масле", якая пхае Беларусь у яшчэ большую галыцьбу. Я ўсё гэта перакрэсліваю і прызнаюся — мару толькі аб адным: аб выездзе назаўсёды на Захад".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# Зорка
## Старонка для дзяцей

# Вершы Віктара Шведа

### ГІГІЕНА

Настаўнік запытаў Яўгена,
Што не грашыў ён чысцінёю:
-- Ты слова растлумач "гігіена",
І калі дзеці дружаць з ёю?

-- Дык гэта чысціня, вядома,
Не любім мы яе, малыя,
І выступае, калі дома
Часцей, чым трэба, шыю мыем!

### ХАЦЕЎ БЫ ЖЫЦЬ НА АНТАРКТЫДЗЕ!

Настаўнік, увайшоўшы ў клас
Пытае: -- Дарагія дзеці,
Цікава ведаць, хто дзе з вас
Хацеў бы пражываць на свеце?

-- На Антарктыду мяне лёс
Кінуць бы мог, -- сказаў Мікола. --
Калі вялізарны мароз --
Тады хадзіць не трэба ў школу.

### НЕ ЗАРАНА БЫЦЬ ПАСЛУХМЯНЫМ

Матуля інфармуе сына:
-- Хутка твае ўжо імяніны.
Купім табе мы ў падарунку
Шмат розных цацак і ласункаў.

-- Здаецца мне, у маё свята
Трэба быць лепшым маме, тату...
І думаю, што не зарана
Мне пачынаць быць паслухмяным.

### ЦІ "ФІАТ" НА БАТАРЭІ?

— Калі, сынок, ты будзеш паслухмяны,
Каб адпачыць па гарадскім нам вуллі,
Паедзем мы з табою заўтра рана
Да нашае цудоўнае бабулі.

І неўзабаве дабрадушны тата
Пачуў пытанне ад сынка Андрэя:
-- Купілі мы свайго малога "фіата"
На круглыя, ці плоскія батарэі?



*Перад школай.* Фота М. Лукшы

СТАРАЖЫТНЫЯ РАМЁСТВЫ БЕЛАРУСІ

## ЧЫГУННАЯ ПЛАСТЫКА

У розных кутках Беларусі на старасвецкіх могілках можна бачыць разнастайныя агароджы, крыжы, помнікі, пліты, адлітыя з чыгуну. Чалавеку недасведчанаму яны ўяўляюцца прывезенымі ў нашу „неметалургічную" Беларусь аднекуль здалёку. На самай жа справе гэта работы мясцовых ліцейшчыкаў.

Яшчэ ў першабытныя часы на Беларусі ўмелі выплаўляць чыгун з мясцовых балотных руд. А ў XVIII стагоддзі з'явіліся нават невялікія паўсаматужныя заводзікі па выплаўцы жалеза і чыгуну: у маёнтку графа Паскевіча ў Гомелі, пры Горы-Горацкіх навучальных установах на Магілёўшчыне, у Высокім на Аршаншчыне, Кляцішчах на Стаўбцоўшчыне і іншых.

Найбольш буйным з падобных прадпрыемстваў быў чыгуналіцейны завод графа Храптовіча, заснаваны ў 1794 годзе ў Вішневе (Валожынскі раён). Літыя намагільныя агароджы рознага малюнка з кляймом завода і сёння сустракаюцца на навакольных могілках.

Чыгуналіцейнае мастацтва набыло шырокую папулярнасць. Чыгун быў значна таннейшы за каляровыя прывазныя металы, з яго можна было вырабляць рэчы розных памераў, з самым тонкім малюнкам дэкору. З чыгуну адлівалі садовыя лаўкі, намагільныя пліты, крыжы, архітэктурныя элементы (вароты, агароджы, балконы, краншэйны, парэнчы), разнастайнае хатняе начынне (дзверцы для печаў, прасы, лямпы, свяцільнікі і інш..

У канцы XIX стагоддзя, з насычэннем рынку танным металам з паўднёварасійскіх заводаў, усе паўсаматужныя прадпрыемствы, што працавалі на мясцовых балотных рудах, закрыліся. Уцалелыя вырабы, а іх захавалася шмат, сведчаць, што за адносна кароткі час — з канца XVIII да канца XIX стагоддзяў — чыгуналіцейнае мастацтва ў Беларусі змагло ўзняцца практычна да еўрапейскага ўзроўню.

Шкада, што гэтыя цікавыя ўзоры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва сёння закінутыя і занядбаныя. Між тым, прыведзеныя ў парадак, яны маглі б стаць своеасаблівымі экспазіцыямі ўзораў мясцовага рамяства.

ЯЎГЕН САХУТА

АБРАДЫ НАШЫХ ПРОДКАЎ

## ПАКРОЎ

Пакроў (Пакравы, Пакрова). Само слова праваслаўная царква тлумачыла літаральна: пакроў (г. зн. пакрывала) Божай Маці. У народнай жа трактоўцы гэта паняцце атрымлівае куды больш шырокі сэнс, ахопліваючы самыя розныя прыкметы ў прыродзе гэтага часу: „Святы Пакроў накрыў зямлю жоўтым лістом, маладым сняжком, ваду лёдам, пчалу мёдам", „...рыбу луской, дрэва карой, птаху пяром, дзеўку чапцом", „Святэй Пакроў стагі пакрыў: першы стажок дранічкамі, другі стажок саломкаю, трэці стажок белым снегам". Гаварылі, што зіма закрывае лета, а Бог пячатае зямлю пасля гэтага дня і да вясны ніхто не можа знайсці скарбаў.

На Віленшчыне існаваў звычай пячы на свята пірог і абыходзіць з ім усе гаспадарчыя будынінь, прыкладаючы да кожнай страхі, каб буры, што пачынаюцца з гэтага дня, не разбуралі стрэхі. Прыгадаем, што абыходзілі з хлебам палеткі вясною і менавіта на Юрыя, калі зямля „адмыкаецца" ад сіл, якія скавалі яе. Юр'е і Пакроў змыкаюцца між сабою тым, што з першым звязаны выган жывёлы пасля зімы, а другім — пачатак зімавання скаціны ў хляве („Пакрова — зарыкала ў хляве карова"). На Пакроў трэба было закласці ў яслі корму, нават калі жывёла была сытая: „На Пакровы дай сена карове"). Дзякуючы фанетычнай сугучнасці свята Пакрова сабрала шмат прыкмет і парад, звязаных з каровамі:„Прыйшла Пакроўка — не дала малака кароўка" (г. зн. запускаецца), або ў дачыненні да нерухавага гаспадара: „Хто сее па Пакрове — не будзе мець чаго даць карове".

Пакроў успрымаўся як надзейны паказчык прагнозаў надвор'я на даволі аддаленыя дні і нават на цэлыя поры года: „Калі да Пакрова дня снег не пакрые зямлю, то і на Каляды не будзе снегу"; „Якое надвор'е ў дзень Пакрова, такое яно будзе і ўсю зіму да вясны"; „Калі да Пакроў не было снегу, не будзе яго яшчэ дзве нядзелі"; „Калі ад Пакроў да свята Усіх Святых (1 лістапада) краты зямлю точаць, то зіма снежна і марозліва".

Асабліва пільна сачылі на Пакроў за напрамкам ветру: з якога боку ён быў у гэты дзень, з таго боку будзе дзьмуць галоўным чынам і зімой. Зыходзячы з перакнання, што поўдзень заўсёды нясе цяпло, а поўнач холад, сцвярджалі, што паўночны пакроўскі вецер прадказвае суровую зіму, а паўднёвы — мяккую, гнілую. Калі ж з раніцы задзьме ўсходні вецер — зімою будзе мала снегу, заходні — наадварот, вельмі снежна. Прагноз на свае поспехі ці няўдачы рабілі некалі ў Барысаўскім павеце пчаляры: дажджлівы дзень Пакрова — на наступны год пчолы збяруць багата мёду.

У гэту вясельную пару хлопцы па вёсках выглядалі сабе нявест, а тыя напярэдадні Пакрова варажылі на замужжа. На Брэстчыне набіралі ў хвартух апалае лісце і пасля вытрасалі з прыполу — куды вецер панясе, туды і замуж ісці. У іншых мясцінах пяклі салёныя бліны і перад сном з'ядалі, задумваючы, каб сасніўся і напаіў той, хто наканаваны лёсам. Як сцвярджала прыказка, „Ад Пакрова ўжо дзеўка гатова". З марамі пра замужжа дзяўчаты прасілі свята Пакроў накрыць іх галаву вянком (чапцом): „Пакровы прыдуць — дзеўцы галаву накрыюць". Калі ж вяселле на гэты раз абмінала хату, то „Праходзіць Пакрова — раве дзеўка, бы карова".

УЛАДЗІМІР ВАСІЛЕВІЧ

## Для самых маленькіх

*ВАСІЛЬ ЖУКОВІЧ*

### ДАЖДЖАВАЯ КАЛЫХАНКА

Ночка чорнаю буслiхай
прыляцела на зямлю.
Ходзіць дождж ціха-ціха,
шэпча песеньку сваю:

„Спіце, пушчы і палеткі,
спіце, птушкі, мурашы,
спіце, дрэвы, спіце, кветкі,
шу-шу-шу-шу, шы-шы-шы!

Гром заснуў у калясніцы
і маланак не відаць.
Хай усім цудоўна спіцца,
Я іду таксама спаць".

### ІДЗЕ ВУЧАНІЦА

Знаёмай сцяжынкай
ідзе вучаніца.
Ей сонейка свеціць
і ззяюць крыніцы.

Ёй дрэвы гамоняць.
Ідзе вучаніца
у Ведаў краіну,
у свет таямніцаў.

Яна ўжо вучылася
некалькі раніц,
ёй так падабаецца
з кніжкамі ранец!

З цудоўным настроем
ідзе вучаніца:
на твары — усмешка
і позірк іскрыцца.

Як ветразі, банцікі
ў мілай дзяўчынкі,
а косы, а косы —
як дзве ручаінкі.

Як хочацца верыць
у светлы дзень гэты:
дзіцячае шчасце
не спаляць ракеты!

### СЛУХАЙ РОДНУЮ ПРЫРОДУ

У любую пару года,
у пагоду, непагоду,
слухай родную прыроду —
ты пачуеш галасы
таямнічае красы.

З лесам, з нівай залатою
размаўляе ветравей,
сонца-сонейка — з зямлёю,
з цішынёю — салавей,
з небам — рэкі і азёры,
хваля — з ніцаю вярбой...
Як і што яны гавораць,
слухай, сябра любы мой.

### НЕЧАКАНЫ КЛОПАТ

Паскардзілася Ніла:
— Ой, ведаеш што, мама?
Разліў каток чарніла —
ў яго на футры пляма.

Дык прыйдзецца ж, відаць,
яго ў хімчыстку здаць.

### РАДАСЦЬ

З пральні прывязлі бялізну
цэлы чамадан вялізны.
Ёй, бялізне, чыстай, гладкай,
вельмі рады ўсе:
маці, бацька, наша бабка,
а найболей — дзед Яўсей.
Хваліць дзед парадкі:
— На бялізне — ані складкі!
Гэта ж — цуд-машыны!
Можа, ў пральні паддаліся б
і мае маршчыны?

*ГРАФІНЯ ДЭ СЭГЮР*

## ЗАЧАРАВАНАЯ ХАТКА (5)

*КАЗКА*

*(Працяг з папярэдняга нумара)*

А калі я вярнуўся, тваёй маці ўжо не было: злая варажбітка скарысталася з маёй адсутнасці і забіла яе, а цябе збіралася надзяліць найгоршымі заганамі ў свеце. На шчасце, маё вяртанне не дазволіла здзейсніцца яе злым намерам. Я паспеў спыніць яе як раз у той момант, калі яна надзяліла цябе цікаўнасцю. Праз сваю цікаўнасць ты ў пятнаццаць год павінна была падпасці пад яе поўную ўладу. Але каралева феяў і я, злучыўшы нашу агульную магутнасць, здолелі ўраўнаважыць варажбітчына злое наканаванне. Было вырашана, што ты падпадзеш пад варажбітчыну ўладу толькі тады, калі да пятнаццаці год тройчы саступіш сваёй цікаўнасці. Разам з гэтым рашэннем каралева феяў пакарала Мярзотніцу, абярнуўшы яе ў шэрую мыш і зачыніўшы ў той хатцы, якую ты бачыла. Тады ж яна абвясціла, што варажбітка не зможа выйсці з свайго вязення, пакуль ты, Разалі, сама і па сваёй волі не адчыніш ёй дзверы; што яна не набудзе свайго ранейшага выгляду, пакуль ты тройчы да пятнаццаці год не саступіш цікаўнасці, а калі ты хоць раз устаіш перад гэтай заганай, то будзеш вызвалена назаўжды ад чараў Мярзотнае варажбіткі і вызваліш ад іх мяне. Мне шмат чаго каштавала дабіцца такой апекі ад каралевы феяў, і я здолеў гэта толькі таму, што паабяцаў падзяліць твой лёс і таксама зрабіцца рабом Мярзотніцы, калі ты тройчы саступіш сваёй цікаўнасці. Я вырашыў выхоўваць цябе так, каб знішчыць гэтую страшную заганy — цікаўнасць, якая павінна была прынесці табе столькі гора.

Таму я і трымаў цябе за гэтымі мурамі, таму і не дазваляў нікога ўбачыць, і не меў нават слуг. Сваёю ўладай я стараўся даць табе ўсё, што ты толькі хацела, і пачынаў ужо радавацца, што ўсё ідзе гэтак добра. Заставалася ўсяго тры тыдні да твайго дня нараджэння, пасля якога ты была б вызвалена ад страшных варажбітчыных чараў. Але ў той дзень ты спытала ў мяне пра ключык, пра які раней, здавалася, і не думала. Я не здолеў схаваць ад цябе хвалявання, выкліканага тваёй просьбай, і гэта яшчэ больш распаліла тваю цікаўнасць. Хоць ты ўдавалася быць вясёлай і бесклапотнай, я ведаў твае сапраўдныя думкі. Таму — сама можаш уявіць, як мне было цяжка, калі каралева феяў загадала мне пакінуць цябе адну і пакласці ключык на віднам месцы, каб твая спакуса была яўнай і тым больш заслужанай магчымая перамога! Я вымушаны быў пакінуць ключык і даць табе за маёю адсутнасцю вырашаць самой.

Уяві, Разалі, як я пакутаваў усю тую гадзіну, пакуль ты была адна, а тым больш калі вярнуўся і ўбачыў тваю разгубленасць і пачырванелыя шчокі. Я адразу здагадаўся, што ты не здолела стрымацца. Да таго дня, пакуль табе не споўніцца пятнаццаць гадоў, я вымушаны быў хаваць ад цябе праўду і нічога не казаў пра тое, хто ты і якая небяспека цябе чакае. Інакш ты адразу апынулася б пад уладай Мярзотнае варажбіткі.

Але і цяпер, Разалі, не ўсё яшчэ страчана. Ты можаш выправіць сваю віну, калі за астатнія два тыдні да твайго дня нараджэння хоць раз устаіш перад варажбітчынымі чарамі. У пятнаццаць год ты павінна была заручыцца з Чароўным прынцам, які таксама паходзіць з нашага роду. І гэтыя заручыны яшчэ магчымыя. Ах, мілае маё дзіця, Разалі, пашкадуй, калі не мяне, то хоць бы саму сябе, набярыся мужнасці і болей не саступай сваёй прыхамаці.

Разалі слухала бацьку, седзячы ў яго на каленях, і горка плакала, схаваўшы твар у далонях. Але апошнія бацькавы словы яе крыху падбадзёрылі, яна ласкава пацалавала яго і сказала:

— Бацька, клянуся вам, я выпраўлю сваю віну, але не пакідайце мяне болей адну. Побач з вамі ў мяне на ўсё стане мужнасці, а без вас, без вашага мудрага бацькоўскага догляду мне можа зноў яе не хапіць.

— Ах, Разалі, — адказаў бацька, — на жаль, я больш не магу заставацца з табою. Цяпер я ва ўладзе Мярзотнае варажбіткі, свайго лютага ворага, а яна ніколі не пагадзіцца, каб я быў побач з табой і засцерагаў цябе ад яе вераломства. Мне нават дзіўна, чаму дагэтуль яе не відаць: ёй, вядома ж, было б вельмі прыемна пагладзець на маю скруху.

— Я тут, каля ног тваёй любай дачкі, — прарэзліва віскнула шэрая Мыш і вылезла, каб яе мог убачыць няшчасны чарадзей. — Мне было вельмі забаўна паслухаць расказ пра пакуты, якія я табе прычыніла. Таму я і не паказвалася, каб даць табе скончыць. А цяпер, развітайся са сваёй даражэнькаю Разалі, я забіраю тваю прыгажуню з сабой і забараняю табе ісці за намі.

*(Працяг у наступным нумары)*

## ЯЎСЕЙ, ЖЫТА СЕЙ!

Гадоў сто, а можа, дзвесце назад жыў на свеце дзед Яўсей. Араў зямлю, вырошчваў збожжа, гародніну. І ўсё было б добра, каб не гэта адвечная вайна з птушкамі. Кожны год зляталіся яны на дзедава поле і знішчалі амаль увесь ураджай. Пакуль Яўсей быў яшчэ ў сіле, ён мог цэлымі днямі сядзець на полі, а то і бегаць з дзеркачом, адганяючы птушак.

Але ішлі гады. Цяжка стала дзеду Яўсею пільнаваць поле, і надумаў ён зрабіць пудзіла. Збіў бярозавы крыж, надзеў на яго сваю вопратку, прымацаваў мятлу і паставіў сярод поля.

Птушкі спалохаліся. Лётаюць над полем, а сесці не адважваюцца. Бо як тут сядзеш, калі сярод поля дзед Яўсей з мятлой стаіць? І ўдзень стаіць, і ўначы стаіць. У світцы, брылі ды яшчэ з гэтай жахлівай мятлой!

Прыляцелі да Савы:

— Ты, Сава, старэйшая і мудрэйшая. Парай, як быць.

— Пачакайце да раніцы, — кажа Сава. — Падумаю.

А ўночы, калі месяц узышоў над зямлёю, Сава расправіла крылы і выбралася ў разведку.

Прыляцела на поле, пакружыла над дзедам раз, пакружыла другі — не варушыцца дзед. Тады падляцела бліжэй і кранула яго крылом. Мятла ўпала, а дзед — ні з месца. Асмялеўшы, села дзеду на плячо, бо здагадалася, што гэта не дзед Яўсей, а пудзіла.

— У-гу-гу-гу! — зарагатала Сава і паляцела ў лес. Там яна пра ўсё расказала птушкам.

Тыя адразу — шусь на дзедава поле і так наеліся, што ледзь падняліся.

Раніцай прыйшоў дзед Яўсей на поле. Бачыць: стаіць сярод поля пудзіла, сядзяць на ім птушкі.

— Ах вы, злыдні! — раззлаваўся дзед. — Ну, пачакайце! Я вам пакажу!..

Рашыў Яўсей правучыць птушак. Увечары, каб яны не бачылі, падсеяў поле і вярнуўся ў хату.

Нацямочку, калі сонейка яшчэ не ўзышло, прыйшоў дзед Яўсей на поле, зняў з пудзіла вопратку, надзеў на сябе.

Праз некаторы час пачалі злятацца птушкі. Дзед, каб яго не пазналі, стаў, шырока раскінуў рукі, сцішыўся. Ну, сапраўднае пудзіла!

Птушкі не заўважылі падману, спакойна на дзеда Яўсея селі.

Дзед Яўсей спачатку цярпеў, а пасля не вытрымаў і... даваў іх мятлой хвастаць. Потым выцер лысіну і сказаў сам сабе: „Ну, Яўсей, цяпер смела жыта сей!"

І праўда, з таго часу ніводная птушка і блізка не падлятае да поля, дзе стаіць пудзіла.

**СЯРГЕЙ ТАРАСАЎ**

*ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ*

**ШТО ПРЫНЕСЛА ХМАРА...**

Хлопчык бегаў шчаслівы,
Ён дажджынкі збіраў.
Срэбра кропляў маўклівых
На далонях трымаў.

І за хмараю сіняй
Хлопцу мроіўся май.
Мама клікала сына:
„Пад дажджом не гуляй!"

Бегаў сын на прасторы...
Дзе там ведаць было,
Што з Чарнобыля гора
Сіняй хмарай плыло!

Да зямлі нашай весняй
Кроплі страшныя неслі
Чорны цень,
Чорны дзень...

Хто з вас ведае, можа,
Як той хлопчык жыве?
Ці бяжыць ён да Сожа
Па зялёнай траве?

О, цяпер ён няблізка
Ад куточка свайго!
Адшукайце пад Менскам
У бальніцы яго.

Адвучыўся смяяцца.
„Мама, толькі не плач!.."
Ад цяжкой радыяцыі
Лечыць хлопчыка ўрач.

Дачакацца б хвілінкі
Маме,
людзям усім,
Як зайграюць крывінкі
У гэтым целе малым!

Ты знікай, чорны цень!
Ты прыходзь, светлы дзень!

## ДЗІРАВАЯ ПАМЯЦЬ

Толькі я сеў піць гарбату ды есці гарачыя аладкі, як убачыў свае чаравікі. Бабуля зноў іх не пачысціла. І я крыкнуў:

-- Бабуля!

-- Што здарылася?

-- Скажы, што ты сёння забыла зрабіць?

-- Падручнікі твае знайшла, сабрала, - пачала пералічваць бабуля. -- Штаны адпрасавала. У партфель тры яблыкі паклала...

-- Эх, бабуля! Сам не скажу, дык не ўспомніш. Бачыш, чаравікі не наваксавала! Як ты магла забыць?

-- Ох, старая, зусім страціла памяць. Пякла аладкі, а пра чаравікі забыла. Зараз, унучак, зараз.

Бабуля зняла з маіх ног чаравікі і пачала іх чысціць.

Я з'еў тры аладкі, дапіў гарбату. А бабуля ўсё чысціла мае чаравікі. Ну і марудлівая!

Ой, у школу я спазнюся! Схапіў яшчэ адну аладку -- і бягом у школу. Бабуля нешта крыкнула мне ўслед, але я не пачуў за дзвярыма.

Паспеў! Ускочыў у клас, а ўсе ў класе чамусьці смяяцца пачалі. Выцер я пот з твару, зірнуў на ногі і жахнуўся: у адных шкарпэтках прыбег у школу! Ну, бабуля, пачакай! Чаравікі наваксаваць наваксавала, а на ногі мне абуць забыла. Вось дзіравая памяць!

**МІКОЛА КАПЫЛОВІЧ**

**БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ**

## У МЯДЗВЕДЗЯ НА БАРУ

Аднаго з удзельнікаў гульні выбіраюць або прызначаюць мядзведзем. Мядзведзь ходзіць па сваім лесе, шукае, хто яму робіць шкоду. Дзеці прыходзяць у лес па ягады, па грыбы. Яны ходзяць і разам спяваюць песню:

*У мядзведзя на бару*
*Грыбы, ягады бяру.*
*Мядзведзь рычыць,*
*На нас глядзіць.*

Дзеці могуць некалькі разоў праспяваць сваю песню. Мядзьведзь выбірае зручны момант, каб кінуцца на іх. Ён бяжыць за дзецьмі, стараецца каго-небудзь злавіць. Хто будзе злоўлены першым, той становіцца мядзведзем. Гульня працягваецца да таго часу, пакуль дзецям не надакучыць бегаць.

## АДГАДАНКА

*Пагляндзі, якія прадметы выступаюць на ўсіх малюнках.*

## БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

### ПАНЯДЗЕЛАК, 11 КАСТРЫЧНІКА

8.00 Пад купалам Сусвету. 8.15 „Болдзінскае прыцягненне", „Восеньскі матыў". Дак. фільмы. 9.05 „Бацькі і дзеці". Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі. 11.30 „Што на свеце пачуваецца...". 12.30 Навіны. 12.40 „Два словы ў пісьме". Дак. фільм. 13.30 „Кодэкс маўчання". Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі. 15.55 Гісторыя Беларусі. 6-ы клас. Усходнія славяне на Беларусі ў IX-XIII стагоддзях. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 Слова. Абмяркоўваем праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. 17.00 Спасціжэнне ісціны. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Брэст). 18.10 Дзелавы партнёр. 19.10 Тэлевізійны акцёрскі клуб. Міжнародны фестываль монаспектакляў. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 Спартыўны тэлекур'ер. 21.05 „Двое на востраве слёз". Маст. фільм. 22.35 НІКа.

### АЎТОРАК, 12 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Натхненне". Фільм-канцэрт. 7.55 Тэлевізійная дошка аб'яў. 8.00 Гісторыя Беларусі. 6-ы клас. Усходнія славяне на Беларусі ў IX-XIII стагоддзях. 8.30 „Бацькі і дзеці". Маст. фільм. 3-я і 4-я серыі. 10.50 „Музыка Мравінскага". Фільм. 12.15 „Кароль і дыня". Мультфільм. 12.30 Навіны. 12.40 „Двое на востраве слёз". Маст. фільм. 14.10 „Захавальнік". Дак. фільм. 14.30 „Нов & К" - топ-10. 15.30 Беларуская літаратура. 8-ы клас. „Дзед Талаш і Прыпяць" (паводле аповесці Якуба Коласа „Дрыгва"). 16.05 „Белая чапля". Мультфільм. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 „Маэстра". Кінанарыс. 16.50 Гаспадар. Жэнь-шэнь у Беларусі. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Віцебск). 18.10 ТА „Рэха". Рэйтынг. 18.30 Старонкі беларускай музыкі. Д. Яўтуховіч. „Іспанскі сшытак". Вакальны цыкл на вершы паэтаў Іспаніі (фонд). 18.40 Хто купіць беларускую бульбу? Прамая лінія. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Салодкі ручай". Тэлесерыял (1-я серыя). 21.40 Студыя „Тэлесябрына". „Будзьце з намі!". 22.35 „Стоп-кадр". Крымінальная хроніка. 22.55 НІКа.

### СЕРАДА, 13 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Песні маёй зямлі". Фільм-канцэрт. 8.00 Беларуская літаратура. 8-ы клас. „Дзед Талаш і Прыпяць". 8.35 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 10.30 ТА „Рэха". Рэйтынг. 10.50 „Руская рулетка". Маст. фільм. 12.10 „Медзведзяня Рымцімці". Мультфільм. 12.30 Навіны. 12.40 „Сакрэтны фарватэр". Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі. 14.55 Відзьма-нявідзьма. Навіны кінавідэа-аўдыё. 15.55 Для школьнікаў. Скарбы беларускай гісторыі. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 Слова. Абмяркоўваем праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. 17.05 „Фермер Пётр Станкевіч з Лагойскага раёна". Тэленарыс. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Гомель). 18.10 „Карамболь". Ток-шоў з удзелам З. Пазьняка. 18.45 Гандбол. Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны. Беларусь — Харватыя. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 21.40 НІКа. 21.55 „Асада Венецыі". Маст. фільм.

### ЧАЦВЕР, 14 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Каб горан не згас". Дак. фільм. 7.50 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 8.45 Гандбол. Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны. Беларусь — Харватыя (паўтор). 10.25 „Беларусь збірае сяброў". Музычная праграма. 12.30 Навіны. 12.40 „Сакрэтны фарватэр". Маст. фільм. 3-я і 4-я серыі. 15.05 Музыка. 4-ы клас. „У кожнага свой голас" (беларускія музычныя інструменты). 15.25 Для школьнікаў. Ці любіце вы тэатр? 16.30 Навіны. 16.40 „Наш стары знаёмы". Тэленарыс аб другім чэмпіянаце свету па поліатлону. 17.05 Міжусобіца. Гісторыя аднаго канфлікту. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Гродна). 18.10 Зачытайце маё пісьмо... 18.15 Здароўе. Тэлечасопіс. 18.50 Баскетбол. Чэмпіянат МПБА.РТІ (Менск) — „Жальгірыс" (Каўнас), 2-гі тайм. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 21.40 Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю. 21.55 НІКа. 22.10 Творчае маладзёжнае аб'яднанне „Крок". 23.10 Мотабол. Пасляслоўе да чэмпіянату.

### ПЯТНІЦА, 15 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Песні Пармы маёй". Фільм-канцэрт. 7.55 Тэлевізійная дошка аб'яў. 8.00 Музыка. 4-ы клас. „У кожнага свой голас" (беларускія музычныя інструменты). 8.20 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 9.15 Баскетбол. Чэмпіянат МПБА. РТІ (Менск) — Жальгірыс (Каўнас). 10.40 „Волат, які марыў іграць на скрыпцы", „Ці лёгка быць храбрым". Мультфільмы. 10.55 „Поезд па заракладам". Маст. фільм. 12.15 Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю. 12.30 Навіны. 12.40 „Мой дом у Сан-хаі." Дак. фільм. 13.00 „Загадка Эндхаўза". Маст. фільм. 14.40 „Вяртанне ў першы снег", „Зорка Максіма", „Ой, лятала шэра перапёлка". Дак. фільмы. 15.10 ПІК. Пазнавальна-інфармацыйны канал для падлеткаў. 16.00 Запрашальны білет. Знаёмства з дзіцячым танцавальным ансамблем „Літарынка" г. Менска. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 Слова. Абмяркоўваем праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. 16.55 Хай дапаможа нам музыка. Гродзенская капэла прадстаўляе... Перадача 1-я. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Магілёў). 18.10 Дыялог. Лёс беларускай дзяржаўнасці. 18.55 „Морына". Тэленарыс. 19.10 Хакей. Чэмпіянат МХЛ. „Цівалі" (Менск) — „Іціль" (Казань). 3-ці перыяд. 19.45 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Невядомая жанчына". Маст. Фільм (ААР). 22.35 НІКа.

### СУБОТА, 16 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Невядомая жанчына". Маст. фільм. 9.10 Урокі здароўя. Аздараўленчы бег восенню і зімой. 9.40 „У сінім моры, у белай пене", „Кракакот". Мультфільмы. 10.00 Тыдзень планеты. Міжнародны агляд. 10.15 Паказвае Віцебск. 11.20 Футбол. Чэмпіянат Беларусі. „Днепр" (Магілёў) — „Дынама" (Менск). 12.55 Хай дапаможа нам музыка. Перадача 2-я. 13.30 Ало, ёсць пытанне. Наш госць — першы намеснік старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі П.В. Крачко. Прамая лінія. 14.30 Хрысціянская праграма. 15.00 Гандбол. Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны. Беларусь — Балгарыя. 16.30 Процістаянне. Маральна-прававая праграма. 17.20 „Зямля Камянецкая". Тэленарыс. 17.40 „Залаты рынг". Шоў-праграма. 18.40 „Нов & К"-топ-10. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.50 „Салодкія мроі". Маст. Фільм. (ЗША). 22.45 НІКа.

### НЯДЗЕЛЯ, 17 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Слова да чалавека". Звяртаецца праведнік Рык Рэнер. 7.55 „Асада Венецыі". Маст. фільм. 9.15 Белыя і чорныя. Тэлевізійны шашачны клуб. 9.45 Вас выклікае Спарталандыя. Сустрэча школьнікаў Беларусі і Каракалпакстана. 11.05 С. Рахманінаў. „Сімфанічныя танцы". Выконвае Дзяржаўны сімфанічны аркестр Беларусі. 11.55 „У краіне вясёлай дзяцінства", „Чароўная рыдлёўка". Мультфільмы. 12.25 Адраджэнне. Культурна-асветніцкая праграма. 12.55 Для дзяцей. Літарынка. 13.35 Хай дапаможа нам музыка. Перадача 3-я. 14.00 Таямніца. Праграма для сям'і. 14.30 Слова. Абмяркоўваем праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. 14.45 „Прыгоды капітана Урунгеля." Мультфільм. 1-я — 4-я серыі. 15.25 „Залатое цяля". Маст. фільм. 18.15 „Пакуль жыве надзея..." Праграма „Тры кіты" ў Карэліцкім раёне. 19.00 Панарама. 19.35 Пад купалам Сусвету. 19.40 Калыханка. 20.05 „Маскі". Мастацкі фільм (Францыя). 21.40 „Каскад". Кантакт. Інфармацыя. Рэклама. 21.05 Відзьма-нявідзьма. Навіны кіна-відэа-аўдыё. 22.55 Валейбол. Кубак ЕКФ. Мужчыны. СКА (Менск) — каманда Даўгапілса. 12.35 Хакей. Чэмпіянат МХЛ. „Цівалі" (Менск) — „Лада" (Тальяці). 3-ці перыяд.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Сніўся мне такі сон, у якім я пісала розныя словы атрамантам, але не магла іх правільна напісаць. Трымала асадку ў руцэ, выводзіла літары і словы правільна, а атрымліваліся словы незразумелыя, якіх не разумела ні я, ні тыя людзі, якім я хацела нешта сказаць, бо, здаецца, у сне я не магла гаварыць.

**Аліна**

Даражэнькая Аліна! Такія сны сняцца людзям часта: што не могуць ісці, а трэба; што не могуць вымавіць аніводнага слова, а тут на чалавека напалі і трэба крычаць: „Ратунку!"; што нешта перашкаджае ўстаць з пасцелі, быццам трымае чалавека; што быццам ён ідзе пад гару, а ногі тупаюць на месцы.

Табе, Аліна, прыснілася, што ты не магла ў сне ні слова сказаць, ні напісаць штосьці правільна. Пісала ты быццам і літары і словы атрамантам, але атрымліваліся словы, якія не былі зразумелыя ні табе, ні іншым. А многім сніцца, напрыклад, што гавораць на нейкай замежнай мове, ды толькі ніхто не можа нічога зразумець.

Такія сны найчасцей сняцца на нейкія цяжкасці. Могуць быць звязаны таксама з пагаршэннем стану здароўя. А часамі сняцца проста ў выніку нязручнай пазіцыі цела ў часе сну.

Няма патрэбы асабліва хвалявацца.

**АСТРОН**

## СОН, ЯК У РУКУ ДАЎ

-- Некаторыя гавораць, што ў сны не трэба верыць. А я думаю, што трэба верыць, і той шчаслівы, хто ўмее адгадаць, што прадвяшчае сон.

Вось аднойчы прыснілася мне, што быццам я жыву ў вёсцы. Набліжаецца пара капання бульбы. Прыходзіць мой свёкар (нябожчык ён ужо ад дзесяці гадоў) і кажа: "Што з цябе за гаспадыня!? Усе мяшкі мышы паелі, а ты не думаеш іх латаць?! А ў што бульбу збіраць будзеш? Адкуль грошай возьмеш на новыя мяшкі?" Я палезла на вышкі, гляджу -- усе мяшкі ў дзірах! Давай я іх латаць, ледзь управілася.

Прачнулася я і падумала, што прысніўся мне сон пра вёску таму, што мы ўчора з суседкай успаміналі нашае вясковае жыццё.

Пайшла я ў краму купіць нешта, а пасля думала аформіць пару спраў. Стала ў чаргу па хлеб. Кашалёк я трымала ў руках, а сашэ з паперамі ляжала ў сумцы без замочка. За мною стаяў мужчына з двума хлопчыкамі. Усё тыя малыя цягнулі маю сумку да сябе. Думала, што яны так гуляюць, і, смеючыся, адбірала ў іх сваю сумку. Купіла я хлеб і пайшла ў гмінную управу. Гляджу -- а тут сашэ з дакументамі няма. Сказаў мне начальнік афармляць усе дакументы яшчэ раз. Вядома, колькі часу і нерваў я страціла, пакуль усё гэта зрабіла.

Вось вам і парваныя мяшкі! Цяпер ужо ведаю: сніць латы -- афармляць нейкую справу, -- закончыла свой аповяд Райка.

**АЎРОРА**




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**КРАКЕТЫ З ГРЫБОЎ**

Прадукты:

*1,5 кг свежых грыбоў,*
*300 мл малака,*
*2 яйкі,*
*20 дэкаў цертай булкі,*
*25 дэкаў цыбулі,*
*соль і перац,*
*мука для паніравання,*
*тлушч для смажэння.*

Грыбы ачысціць, зварыць у малой колькасці вады, адцадзіць, пасячы. Перамяшаць з гарачым малаком, цертай булкай, пасечанай і падсмажанай цыбуляй, яйкамі, прыправамі. Гэта маса павінна пастаяць паўгадзіны. Тады качаць у руках шарыкі, мачаць іх у муку і смажыць на тлушчы. Падаваць, паліўшы смятанай.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ВІРАВАНКА З „З"

1. склікае вернікаў на малітву ў царкву, 2. перакрыцце, якое злучае сцены збудавання або выміранне, знікненне чагосьці, 3. аркестр і музыка духавых і ўдарных інструментаў, 4. след, адбітак, умоўнае азначэнне, 5. сабранне, сукупнасць або сход членаў, 6. белавежскі звер, 7. паказальны прыклад, форма прадмета, 8. адметная прастора, паласа, 9. бываюць малочныя, кутнія, вочныя, а нават драўляныя і жалезныя, 10. „голыя" сцены дома, 11. здольнасць бачыць, 12. сукупнасць транспартных сродкаў, 13. дзівацтва, капрыз, 14. прыметныя, значныя змены, 15. пастанова, распараджэнне ўлады з сілай закону, 16. аснова, апора, фундамент.




**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 34 нумара:**
**Гарызантальна:** Масеру, гамбіт, камера, рака, рана, Валкавыцкі, Коль, Таль, манета, касцяк, работа.
**Вертыкальна:** матура, рака, гара, Іткіна, меркаванне, каваль, ракіта, Колька, льгота, маяк, тара.

**Кніжную ўзнагароду высылаем Аляксандру Дабчынскаму з Беластока.**




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міранові́ч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1994 r. upływa 20 listopada 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 52 000 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką do końca br. wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł., a od 1.01.1994 r. — odpowiednio 7000 zł. i 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*АМБРОЗ БІРС*

## СА „СЛОЎНІКА Д'ЯБЛА"

**Тыл** — у амерыканскай ваеннай навуцы безабаронная частка арміі, якая знаходзіцца бліжэй да Кангрэса.

**Тэлефон** — вынаходка д'ябла, якая дапамагае непрыемнаму чалавеку гаварыць да нас без страху дастаць апляуху.

**Узгадваць** — распавядаць (з неабходнымі дадаткамі) пра невядомае раней.

**Успамін** — праца мозгу, з дапамогай якой мы ясней бачым тое, што адбылося ўчора і як у далейшым пазбегнуць небяспекі, якая нам больш ніколі не трапіцца.

**Уцякаць** — „таямнічая красціся". Звычайна з рэчамі, якія належаць іншаму чалавеку.

**Фактычна** — магчыма, верагодна.

**Фізіягноміка** — мастацтва вызначэння характару іншага чалавека па падабенству ці непадабенству яго твару да нашага, які з'яўляецца ідэальным.

**Цана** — кошт плюс надбаўка за пакуты сумлення, якія перажывае гандляр, называючы цану.

**Цынік** — жахлівы чалавек, кепскі зрок якога дазваляе яму бачыць рэчы ў іх праўдзівым святле. Менавіта таму ў некаторых краінах цынікам з мэтай паляпшэння іх зроку выколвалі вочы.

**Цырк** — месца, дзе коням, поні і сланам дазваляецца паглядзець, як мужчыны, жанчыны і дзеці клеяць дурня.

*З англійскай пераклаў*
*Алесь Кудраўцаў*

### РАХУНАК У РЭСТАРАНЕ

— Калі вы не аплаціце рахунак за з'едзены абед і пітво, я вымушаны буду выклікаць паліцыю, — заявіў афіцыянт.

— Можаце яе клікаць, калі спадзеяцеся, што яна зможа аплаціць рахунак.

### ВЯРТАННЕ ДОЎГУ

Двое сяброў частаваліся ў рэстаране, калі ў залу ўварваўся ўзброены вымагальнік і стаў адбіраць грошы ў наведвальнікаў. Не чакаючы, калі да іх дойдзе чарга, адзін з прыяцеляў паспешліва выняў з кішэні кашалёк, працягнуў яго сябру і сказаў:

— Стары, дзякуй, што выручыў. Вось тыя сто долараў, якія ты пазычыў мне на тым тыдні.

## СЕНТЭНЦЫІ

Брахня вартая столькі, колькі варты брахун.

* * *

Адвага і разважная баязлівасць суседнічаюць.

* * *

Рай — гэта сад вечна квітнеючых яблынь.

* * *

У галадаючым горадзе нават у пацука рыс пад замком.

* * *

Вясёлка — гэта паўлінаў хвост зямлі.

**БАРЫС РУСКО**




## З ЧАГО СМЯЮЦЦА Ў БЕЛАРУСІ




*Малюнак П. Козіча*

## ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у 40 н-ры)*

### МОГІЛКАВЫЯ ІСТОТЫ

#### Фосфарны слуп

Гэтая здань вядзецца пераважна на закінутых могілках ды цвінтарах і ніколі не пакідае іх тэрыторыі. Уяўляе сабою паўпразрысты зеленкаваты газавы слуп, што свеціцца з сярэдзіны. Праўда, некаторыя, найбольш зацятыя знаўцы сцвярджаюць, што на Маскоўскіх могілках горада Менска сустракаюцца слупы злавесна-чырвонага колеру, пераважна над магіламі ветэранаў партыі і камуністычнага будаўніцтва. Слуп з'яўляецца над капцом апоўначы і знікае з першымі промнямі сонца. Многія таямнічыя забойствы і знікненні аматараў начных шпацыраў па могілках можна вытлумачыць, калі прыняць пад увагу існаванне гэтай маладаследаванай з'явы. Мала хто застаўся жывым пасля сустрэчы з гэтай жудаснай зданню, а таму рэдкія ацалелыя сведкі ўдвая каштоўныя. Вось, напрыклад, што здарылася са студэнтам сталічнае Акадэміі торфу кангалезцам Дж.:

„Цемнаскуры госць бавіў вольны час у бліжэйшым рэстаране „Палессе", дзе і пазнаёміўся з прывабнай трынаццацігадовай паненкай П. Пасля закрыцця рэстарана яны доўга не маглі знайсці цёмнага месца, прыдатнага для мілавання. Пасля працяглых пошукаў студэнт і паненка нарэшце апынуліся на Усходніх могілках, каля капца нядаўна памерлага наменклатурнага паэта К. Падчас мілавання ўвагу афрыканца прываблў лаўровы вянок на помніку, зроблены з нержавеючай сталі, які сваім бляскам, пэўна, нагадаў яму далёкую радзіму. Дж. пацягнуўся па яго, але пры спробе завалодаць рытуальнай уласнасцю нябожчыка над капцом узняўся жахлівы Слуп і стаў душыць рабаўніка. Знаходлівая паненка не разгубілася і пстрыкнула запальнічкай. Слуп згарэў дарэшты. Моцна пацярпелага студэнта-замежніка завезлі ў апёкавы цэнтр. Дактары рабілі што маглі, але ў сховішчы скуры не знайшлося матэрыялу патрэбнага адцення і таму небараку давялося перасадзіць скуру белага чалавека. Знаходлівую дзяўчыну ўзнагародзілі медалём „За ратаванне на могілках". З гэтай гісторыі вынікае, што палавыя зносіны часам куды больш бяспечныя пры святле ў людных месцах, чым у цемры".

*(працяг будзе)*

Падрыхтавалі

**ФРАНЦІШАК ХЛУС**
**і МАРЦІН ЮР**

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

У Грузіі вучоныя хочуць выявіць сакрэт даўгавечнасці жыхароў тамашніх вёсак. Пытаюць аднаго дзядулю:

— Які ваш рэцэпт на даўгавечнасць?

— Свежая гародніна; раніцай, у абед і вечарам.

— А колькі вам гадоў?

— Дзевяноста восем.

Пытаюць наступнага:

— Які ваш рэцэпт на доўгавечнасць?

— Гімнастыка; раніцай, пасля абеду і вечарам.

— А колькі вам гадоў?

— Сто восем.

Падыходзяць да наступнага дзядулі:

— Які ваш рэцэпт на даўгавечнасць?

— Дзяўчаткі; люблюся раніцай, апоўдні і вечарам.

— А колькі вам гадоў?

— Трыццаць восем.

* * *

У медыцынскай акадэміі на экзамене па анатоміі прафесар пытае студэнтаў:

— З якой тканкі збудаваны мужчынскі палавы орган?

— З мясной, — адказаў студэнт.

— З касцявой — адказала студэнтка.

— Пан адказаў правільна, а пані толькі здавалася, — сказаў прафесар.

* * *

Ноч пасля шлюбу. Муж кладзе руку на жывот жонкі, песціць і гаворыць:

— Люблю цябе.

— Крыху ніжэй, — просіць жонка.

— Люблю цябе, — паўтарае муж басам.

* * *

— Што можна зняць з медсястры на начным дзяжурстве?

— Лекара на начным дяжурстве.

* * *

Прыходзіць баба да лекара. Пасля абследавання лекар гаворыць:

— Прашу аддаць мачу для аналізу. Прабірка стаіць на шафе. Я праз хвіліну вярнуся.

Вяртаецца пасля 10 мінут і бачам не верыць: цэлая сцяна і падлога мокрыя.

— Вы хіба ашалелі?!

— Зусім не. Не так лёгка насікаць у прабірку, якая стаіць на шафе, — адказала са спакоем жанчына.

* * *

Выходзіць баба ад лекара:

— Насмерць забыла, як доктар назваў маю хваробу.

Вяртаецца:

— Пан доктар, як гэта назвалі вы маю хваробу? Жаба? Рыба?

— Не, шаноўная пані. Рак.

* * *

Выходзіць баба ад лекара:

— Як гэта доктар назваў маю хваробу: рыжы ліс, срэбны ліс?..

Вяртаецца:

— Пан доктар, як вы назвалі гэтую маю хваробу?

— Сіфіліс!

* * *

Прыходзіць жанчына да лекара.

—Распраніцеся, калі ласка.

— Ці туфлі таксама зняць?

— А ці вы хочаце ісці ў ложак у туфлях?

**Сабраў Андрэй Гаўрылюк**




Даражэнькае Сэрцайка!

Ты не раз пісала, што бацькі дзецям — не ворагі. І я табе верыла, бо не думала, што ты магло б кепска раіць сваім чытачам, якія давяраюць табе часта больш, чым самым блізкім людзям. А, зрэшты, я не мела падстаў не слухацца сваіх бацькоў. Я ў іх адзіная дачка, і ўсё іх жыццё канцэнтравалася на маім выхаванні і клопатах пра маю будучыню. Я іх разумела.

Вучыцца я паехала ў Познань і там пасябравала з адным хлопцам, які быў са мною на адным курсе. Наша сяброўства хутка перарасло ў моцнае каханне. Мы не разлучаліся на працягу двух першых гадоў нашай вучобы, а на трэці год я прыехала з ім да маіх бацькоў.

Наша віла прыцягвае зрок кожнага чалавека, які прыедзе ў гэта мястэчка. Спадабалася яна і майму хлопцу. А калі ён увайшоў у сярэдзіну і ўбачыў там мармуровы камін, дык і зусім збянтэжыўся. Сапраўды, у нас вельмі прыгожа. Бацькі маюць прыватную краму і добра зарабляюць. Заўсёды яны ганарыліся нашым домам і не шкадавалі на яго грошай.

Бацькі прынялі майго хлопца ветліва, аднак даволі холадна і са здзіўленнем. Я не разумела, што здарылася. Мне заўсёды здавалася, што яны так кахаюць мяне, што ніколі не будуць супроць майго выбару, хаця мой хлопец не зусім адпавядаў іх фінансавым крытэрыям.

Высветлілася, што бацькі ўжо нагледзелі мне жаніха. Быў гэта сын іхніх знаёмых, у якіх таксама ёсць крама. „Той хлопец з багатай сям'і, а гэты твой — галадранец! Глянь, ён нават ступіць палюдску ў гэтай хаце не ўмее, на стравах не знаецца. Як жа ты жыць з ім будзеш?" — дакарала мяне маці.

У Познань мы вярнуліся вельмі сумныя. Я пачала меркаваць, ці не маюць мае бацькі рацыі. Хлопец абразіўся на мяне, калі я яму сказала пра ўсё.

На летнія вакацыі я паехала дахаты адна. Тры месяцы хапіла на тое, каб пасябраваць з тым хлопцам, якога выбралі мне бацькі. Перад маім вяртаннем на вучобу мы ўзялі шлюб. Бацькі былі проста шчаслівыя.

Пасля заканчэння вучобы я вярнулася дахаты, дзе ўжо бацькі знайшлі мне працу. Перайшла жыць да цесцяў, нарадзіўся сынок. Гэта быў адзіны праменьчык у маім жыцці. А так у душы было пуста і змрочна. Не цешылі ні грошы, ні „мерседэс", ні віла. Муж мне зусім збрыд. Нават дзівілася я сама сабе, як мог ён мне калісь спадабацца.

Аднойчы не вытрымала. Пазваніла сваёй сяброўцы, спытала, дзе працуе мой першы хлопец. Сэрца заныла, калі я даведалася, што ён ажаніўся і ёсць ужо ў яго сын. А ўсё ж нешта мучыла мяне да болю. Пазваніла яму на работу. Сказала, што хачу яго бачыць. Назаўтра прыехаў. Сустрэліся ў кавярні, што была ў мясцовым гатэлі. Успаміны нахлынулі на мяне. Здалося мне, што мы і не расставаліся ніколі. Мы кахаліся як калісь, і нішто не магло нам перашкодзіць.

Дагаварыліся, што я прыеду да яго. Дык пакінула дзіця ў бацькоў і паехала, звольніўшыся з працы. І вось ужо тры гады мы разам. Яго жонка з сынам — у яе бацькоў, мой сын — пакуль што ў маіх. Але мы вельмі шчаслівыя, бо мы цяпер разам. Я цешуся, што рашылася на гэты крок.

Ну, і скажы, Сэрцайка, ці заўсёды варта слухацца бацькоў?

**Міраслава**

Міраслава! Бацькі — таксама людзі і могуць памыляцца. Даеш зразумець, што ты вельмі рашучая дзяўчына, бо і першага кінула вельмі хутка для другога, ды і з другім занадта доўга не валаводзілася, аднак жа ў гэтым часе нарадзіўшы дзіця, якое „рашуча" падкінула бацькам. А чаму ж ты не была такой рашучай, калі трэба было сваёй паставай задэманстраваць характар перад бацькамі і выйсці замуж за каханага адразу?

А цяпер вось двое дзетак па бабулях валэндаюцца...

Спадзяюся, што наступныя твае крокі будуць больш разважныя і прадуманыя, а сына ты будзеш выхоўваць сама.

**СЭРЦАЙКА**